14 жніўня 2015 | № 30 (447)

Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

9 772218 214401 10030

Чаго чакаць ад пана Дуды?

стар. 11

4 **АД ПРЫПАВЕСЦІ ДА ЗАГАДУ**

Хто сказаў, што на вяршыні ўладнай «вертыкалі» не здольныя ўсвядоміць маштаб праблем, якія насоўваюцца на нас?

5 **ВЫБАРЫ–2015: ЗА КАГО ПАДПІСВАЕМСЯ?**



У Беларусі сваёй чарадой ідзе электаральная кампанія. Мы прайшліся па пікетах некаторых прэтэндэнтаў на пасаду кандыдата ў прэзідэнты і задалі ім аднолькавыя пытанні. Прапануем іх адказы

13 **ЯК ЖЫВУЦЬ У ДНР**

Пра тое, як жывуць у самаабвешчаных рэспубліках, журналісту НЧ Алегу Новікаву распавядае данецкі чыгуначнік і прафсаюзны актывіст Іван Сурмін

15 **ІГАР ВАРАШКЕВІЧ: «МАРУ БОЛЬШ ЧАСУ НАДАВАЦЬ УНУЧЦЫ!»**



У будучым такім музыкантам, як Варашкевіч, знойдзецца месца і ў Беларускім саюзе кампазітараў, і на канцэртах з нагоды самых важных мерапрыемстваў

# Адзіны дэ-факта

## Што не здолелі лідары беларускай апазіцыі, могуць зрабіць лета і спёка



Сяргей ПУЛЬША

Да заканчэння збору подпісаў за кандыдатаў у прэзідэнты застаўся тыдзень. Каманды патэнцыйных кандыдатаў рэгулярна рапартуюць пра сабраныя імі подпісы. Працэс ідзе марудна.

На момант напісання матэрыялу трое прэтэндэнтаў заявілі, што ўжо сабралі неабходныя сто тысяч подпісаў. Самая вялікая колькасць — аж паўмільёна — у Аляксандра Лукашэнкі (хто б сумняваўся!). Пра сто тысяч заявілі Віктар Цярэшчанка і Сяргей Гайдукевіч.

Штаб Таццяны Караткевіч налічыў 75.000 подпісаў у яе падтрымку, казачы атаман Мікалай Улаховіч кажа пра 72.000. Лідар партыі «Справядлівы свет» Сяргей Калякін назбіраў 54.000, а старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька — 42.000. Іхнія шанцы дасягнуць неабходнага 100-тысячнага бар'еру для рэгістрацыі выглядаюць не самымі перспектыўнымі.

Ці верыць агучаным лічбам? Канешне, гэта справа кожнага, але...

Пакуль нашая газета была ў адпачынку, я паспеў з'ездзіць да бацькоў у Гомель. У самы «смачны» для зборшчыкаў подпісаў раён «Гомсельмаша». Там, дзе пераважна вялікія дзевяціпавярховікі і амаль няма прыватнага сектару. Там, дзе галоўнае прадпрыемства планавала скараціць пяць тысяч чалавек. Там, дзе людзі ў асноўным незадаволеныя ўладай і ўзгадваюць сітуацыю на прадпрыемстве 90-х гадоў. І ў аўтобусах ды тралейбусах размаўляюць пра «падатак на вяселле», — што з грошай, падораных маладым, трэба плаціць збор.

У раёне, па якім я хаджу кожны дзень, я бачыў толькі пікеты за Аляксандра Рыгоравіча. І толькі адзін раз за тыдзень бачыў, як нехта там ставіў подпіс. Адзіны апазіцыйны пікет — у падтрымку Анатоля Лябедзькі, стала стаіць у іншым раёне, ля цэнтральнага ўнівермага. І яшчэ адзін — за Калякіна, у іншым раёне, на вуліцы Мазурава.

Што тычыцца абыходу кватэраў, то аддам належнае Сяргею Гайдукевічу, іх група да нас завітала.

Можа быць, прэтэндэнты ў прэзідэнты сканцэнтраваліся на Мінску, спрабуючы выціснуць усё, што можна, з ягонага двухмільённага насельніцтва? Але ж і Гомель — другі па колькасці насельніцтва горад у Беларусі.

Што яшчэ заўважна з летняга адпачынку? Амаль пустыя гарады. Калі ў Мінску яшчэ народ так-сяк соўваецца на працу і назад, то ў Гомелі амаль усе параз'ехаліся па лецішчах і гародах. У аўтобусы ў напрамку Поўдня — Чарнігава, Кіева і Адэсы — не патрапіць. Народ масава едзе адпачываць, чаму спрыяе эканамічная сітуацыя ва Украіне. Беларусы там выглядаюць «багаценькімі Бурацінамі», і тыя, хто не палохаецца «бандэраўцаў», цалкам можа дазволіць сабе някепскі адпачынак ля Адэсы.

Тыя, хто не мае магчымасці з'ехаць, адседжваецца па кватэрах, ратуючыся ад анамальнай спёкі. Аднак, як я ўжо казаў, за ўвесь час знаходжання ў Гомелі «на пакватэрным абыходзе» я бачыў толькі адну групу патэнцыйнага кандыдата ў прэзідэнты.

Верыць у тое, што хтосьці (апроч Аляксандра Рыгоравіча, за якога працуе «адміністрацыйны рэсурс») ужо зараз без вялікіх цяжкасцяў набраў сто тысячаў подпісаў, мне, з маіх асабістых уражанняў, не выпадае. Асабліва, калі гэта тычыцца не вельмі вядомых асобаў, кшталту Улаховіча альбо Цярэшчанкі. Апошні, у адрозненне ад казацкага атамана, хоць не першы раз у прэзідэнцкай кампаніі ўдзельнічае.




**21 жніўня — апошні дзень падачы сабраных подпісаў для праверкі**

Канешне, праз тыдзень мы даведаемся, хто і колькі насамрэч назбіраў. 21 жніўня — апошні дзень падачы сабраных подпісаў для праверкі ў выбарчыя камісіі. Можа быць, яны нам дакладна раскажуць, хто подпісы сапраўды сабраў, а хто іх «маляваў». Гэта будзе залежаць ад сцэнару, які зараз абярэ ўлада: «вольніца для ўсіх», як было ў 2010-м, альбо «жорсткі адсеў», які прагназавалі напярэдадні палітолагі.

Прыгадваючы 2010 год, заўважу, што ў найлепшай маральнай сітуацыі апынуліся тады «зялёныя», якія шчыра прызналіся, што не сабралі неабходнай колькасці для рэгістрацыі свайго кандыдата, і годна сышлі з прэзідэнцкай кампаніі. У далейшым яны пазбеглі «разборак» сярод апазіцыі і абвінавачванняў у тым, што гэта «Лукашэнка дапусціў іх да перадвыбарчай гонкі».

Можа атрымацца цікавая сітуацыя, калі шляхам «зялёных» пойдуць Сяргей Калякін і Анатоль Лябедзька. Нагадаю, што Таццяна Караткевіч заяўляла пра дзве тысячы сяброў сваёй ініцыятыўнай групы. Калі верыць, што за яе сабрана 75 тысячаў подпісаў, то за тыдзень да заканчэння збору кожнаму з яе валанцёраў трэба здабыць толькі дванаццаць з паловай аўтографаў выбаршчыкаў, каб дасягнуць неабходных для рэгістрацыі ста тысячаў.

Калі Калякін і Лябедзька годна сыдуць з дыстанцыі, Караткевіч апынаецца дэ-факта «адзіным кандыдатам у прэзідэнты ад дэмакратычных сілаў». Тое, пра што два гады не здолелі дамовіцца лідары беларускай апазіцыі, — абраць адзінага кандыдата ў прэзідэнты ад дэмсілаў, — могуць зрабіць лета і спёка.

# Справу Нікалайчык зноў адправілі на дапрацоўку

Генадзь КЕСНЕР

**Адправіць справу Вольгі Нікалайчык на дапрацоўку з-за хібаў у афармленні пратаколаў аб адміністратыўных правапарушэннях — такі вердыкт вынесла суддзя суда Цэнтральнага раёна Мінска Таццяна Рак 12 жніўня.**

Гэта быў ужо трэці разгляд справы Вольгі Нікалайчык за апошнія месяцы. У сераду адзіны сведка з боку органаў аховы правапарадку Паплаўскі на судовае пасяджэнне не з'явіўся па невядомых прычынах — прынамсі, сакратарыят суда пра іх нічога не ведаў.

24 мая 2015 года суд Цэнтральнага раёна сталіцы абвінавацію Вольгу Нікалайчык і праваабаронцу Кацярыну Садоўскую ў брыдкаслоўі і супраціўленні супрацоўнікам міліцыі (артыкулы 17.1 і 23.4 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях) і пастанавіў арыштаваць Вольгу Нікалайчык на 13 сутак, а Кацярыне Садоўскай прызначылі штраф у амаль 11 мільёнаў рублёў.

### У чым справа

29 красавіка рэжысёрку і фрылансера Вольгу Нікалайчык затрымалі каля пасольства Расійскай Федэрацыі падчас перфоманса «касметычка байкераў», прымеркаванага да прыезду байкераў з прапуцінскага клуба «Начныя ваўкі» ў Беларусь.

Вольга Нікалайчык абскардзіла пастанову суда Цэнтральнага раёна ў Мінскі гарадскі суд. 24 ліпеня сталічны суд адмяніў пастанову суда Цэнтральнага раёна па гэтай справе, калі суддзя М. Лапко прыйшоў да высновы, што суд першай інстанцыі не ў належнай меры высветліў, ці было здзейсненае адміністрацыйнае правапарушэнне, альбо вінаватая асоба ў яго здзяйсненні і ці падлягае асоба адміністрацыйнай адказнасці.

Так, не былі ўстаноўлены і не апытваліся грамадзяне, у дачыненні да якіх было здзейснена правапарушэнне, прадугледжанае арт. 17.1 КаАП. Апроч таго, суд звярнуў увагу на той факт, што на відэазапісе камер знешняга назірання, прадстаўленым пасольствам Расійскай Федэрацыі, Вольга Нікалайчык непадпарадкавання супрацоўнікам міліцыі не аказвала, не хапала іх за форменную вопратку, на зямлю не клалася. Таму суд прыйшоў да высновы, што пастанова, вынесеная раённым судом, з'яўляецца заўчаснай, і накіраваў справу на новы разгляд у той жа суд Цэнтральнага раёна сталіцы.

### Без сведкі

Сведка Паплаўскі, які стаў галоўным «зачыншчыкам» справы, 12 жніўня на суд не з'явіўся. Але суддзя Рак нібыта не звярнула на гэта ўвагі, хоць прысутныя былі ўпэўнены, што ў такім выпадку разгляд справы можа быць перанесены да з'яўлення ахоўніка амбасады Расіі ў судзе. Суд сапраўды адкладзены, але з іншай фармулёўкай.

Суддзя Таццяна Рак зачытала пратаколы аб парушэннях адміністрацыйнага кодэкса, пасля чаго Вольга Нікалайчык, адмовіўшы сваю віну, хадайнічала пра прагляд суддзёй відэадоказаў. Суддзя Рак іх прагледзела. І на месцы пастанавіла перанакіраваць справу на дапрацоўку, паколькі ўгледзела недахопы і парушэнні ў пратаколах, бо ў іх не было ўказана дакладнае месца здзяйснення адміністрацыйнага правапарушэння і не напісана, каму дакладна рабілі заўвагі.

### Сфабрыкаваная справа

Сама Вольга Нікалайчык у сваім выступе на судовым пасяджэнні назвала справу сфабрыкаванай. Паводле яе словаў, ні яна, ні Кацярына Садоўская на зямлю не клаліся, супраціву выкліканым Паплаўскім міліцыянтам і яму самому не аказвалі, у міліцэйскую машыну selі самі, без усялякіх высілкаў з боку праваахоўнікаў. Пры гэтым голасу не павышалі і мацюкамі не лаяліся.

Было відаць, што і відэазапіс, які прагледзела суддзя, сведчыў пра тое, што праўда на баку Нікалайчык, а не Паплаўскага і іншых праваахоўнікаў. Таму і знайшла спадарыня Рак нагоду, каб не браць на сябе адказнасць за вынясенне вердыкту па гэтай справе. І з фармальна-тэхнічных прычын накіравала справу на дапрацоўку.

«Справа яшчэ працягнецца, бо яе накіравалі на дапрацоўку, але відавочна і для іх, і для ўсіх, што справа сфабрыкаваная, што парушаюцца законы, што судоў няма, — сказала «Новаму Часу» Вольга Нікалайчык пасля заканчэння судовага пасяджэння. — Выракі выносяцца па званку. Я не магу сказаць за іншых актывістаў, але мяне гэта ніколі не спыніць. Мяне могуць спыніць нейкія іншыя рэчы — здароўе альбо нейкі жахлівы форс-мажор. Бо нехта мусіць нешта рабіць. Можа, я не спыню гэтых начных тхароў, не пераламлю ход падзеяў у краіне. Можа, гэтага мала, але я раблю тое, што магу, — гэта мае фільмы і вось такая дзейнасць».



# Статкевіч: пяты Дзень народзінаў за кратамі

Палітык Мікалай Статкевіч 12 жніўня сустрэў свой 59-ты звычайны, не юбілейны Дзень народзінаў. Але і надзвычайны, своеасаблівы юбілейны, бо гэта пяты Дзень народзінаў запар, які ён сустракае ў турме.

Палітычны вязень №1. Адзіны з дэмакратычных кандыдатаў, што супрацьстаялі Лукашэнку на папярэдніх прэзідэнцкіх выбарах. Пяць год — ад выбараў да выбараў — яго трымаюць за кратамі. Каб зламаць, застрашыць, пазбавіць сілы волі, скарыць. Прымусіць падаць прашэнне аб памілаванні і тым перад усімі выявіць слабіну, прызнаць неіснуючую віну, і такім чынам назаўсёды выкрасліць сябе з шэрагу моцных і шчырых палітыкаў.

Статкевіч перамог сістэму.

Гонар і годнасць, мужнасць і нязломнасць, з якімі Мікалай Статкевіч пяць год запар трымае ўдар, надалі гэтай даце — пятаму дню народзінаў у турме — яскравы знакавы сэнс сімвалу супраціву. Легендарны Статкевіч.

Здароўя табе, Мікола, каб вытрымаць фізічна. Маральная перамога за табой. Воля чакае цябе.

**Аляксей Кароль**

# Навошта ў Мінску помнік мараку «Курска»

Таццяна ШАПУЦЬКА

**Напярэдадні новага навучальнага года на тэрыторыі мінскай сярэдняй школы №134 (мікраён Серабранка) усталявалі дзіўны мемарыял — помнік з прымацаванымі шыльдамі, абнесены агароджаю, унутры якой размешчаны якар, ланцуг і некаторыя дэталі.**

На знаку паведамляецца, што гэта фрагменты корпуса і якарнага ланцуга з падводнай лодкі «Курск», якая затанула ў 2000 годзе ў Баранцавым моры. Нагадаем, тады на падлодцы загінулі 118 маракоў.

На іншай шыльдзе ля ўваходных дзвярэй школы пазначана, што піянерская дружына школы носіць імя капітана 2-га рангу Сяргея Дудко, які служыў мараком на «Курску». Пра Сяргея Дудко інфармацыі ў інтэрнэце няшмат — бацькі родам з Брэсцкай вобласці, сам ён нарадзіўся і жыў у Мурманскай вобласці Расіі. На «Курску» служыў памочнікам камандзіра атамнай падводнай лодкі. Пасля трагедыі па ініцыятыве «Беларуска-расійскага брацтва» піцерская школа №134 была названая імем Сяргея Дудко, у навучальнай установе цяпер размяшчаецца музейная экспазіцыя, прысвечаная экіпажу падлодкі. У 2003 годзе сталае шэфства над гэтай школай узяла мінская сярэдняя школа №134, дзе, дарэчы, функцыянуюць кадэцкія класы. Таксама шэфамі выступілі сярэдняя школа №1 Пінска і ААТ «Пінскае прамыслова-гандлёвае аб'яднанне «Палессе». За грошы беларусаў у піцерскай школе быў абсталяваны кампутарны клас, Мінгарвыканкам вырабіў для школы мемарыяльную дошку.

Дарэчы, на чые грошы быў усталяваны помнік у Мінску — на памятным знаку звестак няма, аднак супрацоўніца школы ў неафіцыйнай размове паведаміла, што спонсары з Санкт-Пецярбургу. Таксама яна распавяла, што многіх мінакоў абурае намагільная форма помніка, якая зусім не падыходзіць да школьнага двара, ды яго пафаснасць — маўляў, можна было б усталяваць звычайную мемарыяльную дошку, тым больш, што Сяргей Дудко не вучыўся ў гэтай школе і нават не жыў у Мінску.

Рэакцыя навучэнцаў ды іх бацькоў невядомая, памятны знак усталявалі летам падчас вакацый. Супрацоўнікі школы таксама расказалі, што 12 жніўня знак дабраславіў святар, а 17 верасня адбудзецца ўрачыстае адкрыццё помніка.

# Ігару Аліневічу зноў пагражае спагнанне

**Як распавяла маці палітзняволенага Валянціна Аліневіч, бліжэйшым часам Ігар чакае рашэння пра новую меру спагнання.**

На гэты раз адміністрацыя калоніі «Віцьба-3» прычапілася да вопраткі. Раз на месяц зняволеныя ўсім атрадам у вызначаны дзень прасуюць свае робы. У гэты дзень яны апранаюць свае спартовыя касцюмы. Такі дзень адбыўся і на мінулым тыдні, але па выніку на Аліневіча склалі рапарт «за хаджэнне не па форме». Цяпер чакаецца рашэнне аб меры спагнання. Мінулыя разы каралі за наступнае: ёсць графік дзяжурстваў па прыборцы, там пішацца прозвішча адказнага алоўкам, потым сціраюць адно імя, пішуць «Аліневіч» і прыцягваюць яго за тое, што ён нібыта не выйшаў на прыборку. Па выніках усіх спагнанняў Ігара пазбавілі перадачаў і спатканняў. Бліжэйшая перадача можа адбыцца ў лютым 2016 года, калі не пазбавяць, канешне», — кажа маці палітзняволенага.

За час знаходжання ў «Віцьбе-3» Ігар Аліневіч атрымліваў шэсць разоў ШІЗА, агулам адбыў там 70 сутак. Зараз ён абскарджвае неправамерныя дзеянні адміністрацыі ў дачыненні да яго, але пакуль безвынікова.

«Яшчэ ў красавіку 2014-га палітвязень пісаў скаргу пракурору Віцебскай вобласці, якая складалася з 35 пунктаў па парушэннях умоваў утрымання і правоў зняволеных. Яму вярнулі скаргу з тым, каб адаслаў у Дэпартамент выканання пакаранняў (ДВП), але спецчастка адмовіла ў перасылцы скаргі. Адказ ён так і не атрымаў», — адзначае Валянціна Аліневіч.

27 ліпеня 2015 года Ігар Аліневіч накіраваў у ДВП яшчэ адну скаргу на начальніка атрада Дзмітрыя Красоўскага, які адмовіўся прадставіць вязню правілы ўнутранага распарадку (ПУР), спасылаючыся на тое, што ПУР толькі для службовага карыстання. Якім будзе адказ — можна толькі здагадвацца.

Акрамя таго, у калоніі ўводзяцца ўсё новыя і новыя абмежаванні і забароны. Так, забралі ўсе кодэксы, не дазваляюць, як і раней, карыстацца юрыдычнай літаратурай. Шмат лістоў да Ігара Аліневіча не даходзяць, асабліва з-за мяжы.

**spring96.org**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Не з'ем, дык панадкусваю

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Беларускі «харчовы Кландайк» увайшоў у новую, трагікамічную фазу. Расія пачала знішчаць «санкцыйныя прадукты» там, дзе іх знойдзе. Прычым, пад «санкцыйнымі» могуць разумецца і цалкам легальныя пастаўкі, але з «непацверджанымі сертыфікатамі».**

Паведамленні Рассельгаснагляду нагадваюць зводкі з франтоў. Прадукты знішчаюць сотнямі тон — польскія яблыкі гараць у печах пад Саратавым, іспанскія нектарыны курочацца ў пакутах пад бульдозерамі аж пад Арэнбургам. У Навазыбкаўскім раёне толькі 7 жніўня аб'ём знішчанай садавіны склаў каля 200 тон.

Паводле інфармацыі Рассельгаснагляду, садавіна спрабавала трапіць у РФ з Беларусі на падставе рээкспартных фітасанітарных сертыфікатаў Малдовы і фітасанітарнага сертыфікату Турцыі. Турэччына фітасанітарныя сертыфікаты не пацвердзіла, і 200 тон садавіны бульдозеры закаталі ў зямлю.

А ў Белгарадскай вобласці «пад раздачу» патрапілі нібыта еўрапейскія сыры.

Знішчальнаму працэсу папярэднічала цікавая дыскусія сярод расійскага чыноўніцтва. Шэраг чыноўнікаў высунулі ініцыятыву пра тое, каб прадукты знішчаліся шляхам іх паядання. Насельніцтва з энтузіязмам падтрымала гэтую ідэю: прынамсі, петыцыя ў інтэрнэце за такі спосаб знішчэння санкцыйнай прадукцыі набрала больш за 350 тысяч подпісаў.

Аднак Расспажыўнагляд нікога не пачуў і папярэдзіў, што за такое «знішчэнне» да чыноўнікаў можа быць ужыта крымінальная адказнасць.

Але што тычыцца чыноўнікаў, тое не тычыцца простага народа. Прыпамежныя расіяне зараз масава рынуліся на месцы знішчэння прадуктаў. Бо дзе яшчэ бясплатна атрымаеш свежую садавіну, гародніну ды іншыя харчы еўрапейскай якасці? Тым больш, што ў выніку знішчальных мераў кошты на персікі, вінаград, чарэшню і іншае ў Расіі падскочылі ўдвая, а недзе і ўтрая.

З сырамі ў Белгарадскай вобласці атрымалася таксама цікава. Рассельгаснагляд выклаў фоткі гэтай гераічнай барацьбы. Аднак у інтэрнэце заўважылі, што на адным з фота на галоўцы сыру бачныя пластыкавыя лічбы. Памятаеце, такія траляліся ў сырах у дзяцінстве?

Ніводзін з еўрапейскіх заводаў падобныя элементы ў сыры не размяшчае — гэта выключна савецкая спадчына. Зараз інфармацыя пра дату вырабу і партыі часцяком выпальваецца лазерам на скарыначцы сыру ці наносіцца на ўпакоўку. Так што цалкам верагодна, што той сыр, паказальна раздушаны расійскімі службамі, быў не французскага альбо швейцарскага паходжання, а меў «краінай прапіскі» Беларусь альбо Украіну.

Увогуле, цікава назіраць за рэакцыяй розных частак інтэрнэт-карыстачоў на знішчальныя акцыі расійскай улады. Рускія абураныя: як можна? Лепш бы аддалі гэтыя прадукты ветэранам, хворым, пацярпелым у месцах катастрофаў, жабракам ці яшчэ каму. Асаблівы гнеў гэтыя акцыі Рассельгаснагляду выклікалі ў Санкт-Пецярбурзе, дзе адразу ж узгадалі пра голад у блакадным Ленінградзе.

Расійцы-памежнікі маўчаць. Інтэрнэт-выданне «Беларускія навіны» з'ездзіла ў Навазыбкаўскі раён і пагутарыла з жыхарамі. Там таксама выказваюць абурэнне, але слаба. Санкцыйныя ж прадукты са сметніку елі амаль усе, прычым, па сведчаннях мясцовых, аб'ядаліся аж два дні. Уяўляеце, колькі было ўтылізавана насельніцтвам! Пры гэтым ніхто не прызнаўся, што быў на сметніку, — усіх неданішчаныя персікамі частавалі неназваныя асобы. І мясцовыя з цікавасцю дапытваліся ў журналістаў: а што яшчэ санкцыйнага зараз стаіць на мяжы?

**Знішчэнне прадуктаў шляхам паядання падтрымала**

**350 тыс.**

**чалавек. Менавіта столькі падпісантаў атрымала петыцыя, размешчаная ў інтэрнэце**

Шараговыя беларусы ж шчыра ўдзячныя Расіі за пачатак знішчальнай кампаніі. Бельгійскі сыр «Гауда» ў нашых крамах стаў каштаваць у паўтара-два разы менш за прадукцыю айчыннага вытворцы. Сапраўды, чаму б не паменшыць? Мы будзем есці якасныя еўрапейскія сыры, а прадукты нашай вытворчасці гнаць у Расію.

Ёсць адзін момант. Як кажуць нашы адказныя чыноўнікі, сінявокая нарасціла пастаўкі харчоў у Расію, але з-за падзення рубля беларускія сельгасвытворцы недаатрымалі за мінулы год ад экспарту прадукцыі ў Расію $560 мільёнаў. Прынамсі, такую лічбу называў начальнік галоўнага ўпраўлення знешнеэканамічнай дзейнасці Мінсельгасхарча Аляксей Багданаў. Каб такога надалей не было, трэба ўсяго толькі перайсці на разлікі за прадукты па перадаплаце. Хай спачатку заплацяць за прадукцыю, а потым робяць з ёй, што хочуць: ці ядуць, ці трактарамі душаць.

На гэтым фоне расійскі віцэ-прэм'ер Аркадзь Дварковіч заяўляе, што наш усходні сусед яшчэ і абмяркоўвае пытанне аб пашырэнні харчовага эмбарга на сем краін, якія падтрымалі працяг санкцый у дачыненні да Расіі з боку ЕС. Праўда, пра адэкватнасць расійскіх чыноўнікаў і дэпутатаў размова, па-мойму, увогуле не ідзе.

Тым часам у сераду курс расійскага рубля да долара перавысіў 65 рублёў за «зялёны». У папярэдні раз вышэй 65 рублёў курс уздымалася 13 лютага 2015 года. Тады беларусы масава вынішчалі тавары на паліцах расійскіх крамаў і затарваліся патаннелымі аўтамабілямі. Наконт аўтамабіляў нешта падобнае адбываецца і зараз.

Па дадзеных агенцтва «Аўтастат», рэгістрацыя новых легкавых аўтамабіляў у Беларусі ў студзені-чэрвені 2015 года склала 25,4 тысячы штук. Гэта на 59,5% больш, чым за аналагічны перыяд мінулага года. Аднак продажы новых легкавых аўтамабіляў афіцыйнымі дылерамі ў Беларусі за студзень-чэрвень 2015-га склалі толькі 11 391 штук. Значыць, нашы людзі зноўку паехалі за патаннелымі аўто ў Расію.

Калі расійскі рубель упадзе да 80–90 за долар (ходзяць і такія прагнозы), зноў стане актуальным шопінг у Расіі. Так што зараз трэба запасацца доларамі.

Ну і не вельмі прыемная навіна з таго ж міжнароднага фронту. Гэтым летам нашым грамадзянам не ўдалося адпачыць у Ізраілі, як яны пра тое марылі. Кнесет Ізраілю да гэтага часу не зацвердзіў увядзенне бязвізавага рэжыму паміж Беларуссю і гэтай краінай. З нашага боку ўсе ўмовы выкананыя, а вось з іх боку — затрымка. І яна можа быць катастрафічнай.

Бо ўрад Ізраіля 4 жніўня падтрымаў прапанову прэм'ера Біньяміна Нетаньяху аб ліквідацыі васьмі дыпламатычных прадстаўніцтваў, у тым ліку пасольства Ізраіля ў Беларусі ў мэтах скарачэння выдаткаў. Амбасада Ізраіля ў Беларусі ўжо зачынялася ў 2002 годзе, і таксама ў мэтах эканоміі бюджэтных сродкаў. Асноўныя консульскія паслугі грамадзянам Беларусі тады аказвала ізраільскае пасольства ў Маскве.

Калі бязвізавага рэжыму не будзе, нам зноў трэба будзе ездзіць па візы ў Маскву.

ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



## Юрый Рубцоў

**Палітвязня перавялі ў папраўчую калонію №2 Бабруйска.**

Пра гэта стала вядома 11 жніўня. Яшчэ ў пятніцу, 7 жніўня, Рубцоў знаходзіўся ў СІЗА г. Баранавічы. Цяпер пісаць палітвязню можна па адрасе: 213807, Магілёўская вобл., г. Бабруйск, вул. Сікорскага, 1, папраўчая калонія №2.

Шмат хто з былых палітвязняў у свой час знаходзіўся ў бабруйскай калоніі. Сярод іх Андрэй Пратасеня, Андрэй Кім, Сяргей Казакоў, Зміцер Дрозд, а таксама і кіраўнік Праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі.

Нагадаем, Рубцоў 6 кастрычніка 2014 года быў асуджаны судом Цэнтральнага раёна Мінска па арт. 391 Крымінальнага кодэкса («Абраза суддзі або народнага засядацеля») да 1 года і 6 месяцаў абмежавання волі з накіраваннем ва ўстанову адкрытага тыпу №7. Новая крымінальная справа на Юрыя была заведзеная 18 сакавіка 2015 года па артыкуле 415 КК «Ухіленне ад адбыцця пакарання ў выглядзе абмежавання волі» за тое, што палітвязень адмаўляўся ад працы з заробкам ніжэй за абяцаны кіраўніком дзяржавы ўзровень у 500 долараў. 28 мая суд Пружанскага раёна прызнаў Рубцова вінаватым і пакараў двума гадамі калоніі агульнага рэжыму з улікам неадбытага тэрміну.

24 ліпеня Брэсцкі абласны суд пакінуў касацыйную скаргу палітвязня Юрыя Рубцова на рашэнне суда Пружанскага раёна без задавальнення, а прысуд без зменаў.



## Генадзь Давыдзька

**Кіраўнік Белтэлерадыёкампаніі прапанаваў беларусам пратэставаць супраць фільма «Місія невыканальная – 5».**

Нагадаем, частка дзеяння фільма адбываецца ў Мінску, дзе злачынны сіндыкат купляе хімічную зброю і спрабуе пераправіць яе ў Дамаск для выкарыстання ў тэрарыстычных мэтах.

Давыдзька заявіў, што яго абурае такое адлюстраванне Беларусі ў мастацкім фільме. Таму, як лічыць старшыня Белтэлерадыёкампаніі, абураныя беларусы павінны пікетаваць кінатэатры.

Беларусы Давыдзьку не паслухаліся: «Місія невыканальная – 5» за прэм'ерныя выходныя ўзначаліла мінскі пракат, сабраўшы 612 мільёнаў рублёў.

Заўважым, што гэта ўжо далёка не першае негатыўнае адлюстраванне нашай краіны ў заходнім кіно. Беларусы ўсё часцей становяцца «дрэннымі хлопцамі» Галівуду. Напрыклад, злыдзень з фільма «Пароль: рыба-меч» у выкананні Джона Траволты кажа, што можа «купіць ядзерныя боегалоўкі ў Мінску па 40 мільёнаў за штуку». «Чорт! Ды калі я вазьму тузін, яны мне нават зніжку зробяць!» — запэўнівае тэрарыст.



## Аляксандр Глеб

**Самы тытулаваны сучасны беларускі футбаліст вярнуўся ў барысаўскі БАТЭ.**

Аляксандр Глеб каля двух месяцаў знаходзіўся без клуба пасля расставання з турэцкім «Генчлербірліґі», заключыў кантракт з барысаўскім БАТЭ 7 жніўня.

Цяперашняе з'яўленне ў БАТЭ для Глеба ўжо трэцяе ў кар'еры. У 1999 і 2000 гадах паўабаронца пачынаў футбольны шлях у Барысаве, адкуль затым пераехаў у «Штутгарт». У 2012-м Глеб вярнуўся ў родны клуб і дапамог яму ярка выступіць у Лізе чэмпіёнаў, памятнай перамогамі «жоўта-сініх» на групавым этапе над «Лілем» (3:1) і мюнхенскай «Баварыяй» (3:1). На фінішы сезону–2013 Глеб перабраўся ў турэцкі чэмпіянат, аднак праз паўтара года зноў апынуўся ў БАТЭ.

Але гэта не вельмі дапамагло БАТЭ ў матчы са сталічным «Дынама». Барысаўцы прайгралі на сваім полі 0:1.

Глеб шэсць разоў прызнаваўся лепшым гульцом нашай краіны (2002, 2003, 2005, 2006, 2007, 2008). За сваю насычаную кар'еру Аляксандр станавіўся пераможцам Лігі чэмпіёнаў (2008/09), чэмпіёнам Іспаніі (2008/09), чэмпіёнам Беларусі (1999, 2012, 2013), уладальнікам Кубка Іспаніі (2008/09), уладальнікам Кубка англійскай лігі (2010/11), сярэбраным прызёрам чэмпіянату Германіі (2002/03), бронзавым прызёрам чэмпіянату Англіі (2007/08).

Азбука паліталогіі

# Ад прыпавесці да загаду



Сяргей НІКАЛЮК

## Без уяўлення вобразу жаданай будучыні немагчыма выбудаваць стратэгію развіцця




Хто сказаў, што на вяршыні ўладнай «вертыкалі» не здольныя ўсвядоміць маштаб праблем, якія насоўваюцца на нас? Здавалася б, яшчэ ў пачатку ліпеня адзіны палітык (АП) адмаўляўся прызнаваць наяўнасць у краіне эканамічнага крызісу. Ён супакойваў панікёраў: «Цяжкасці гэтыя часовыя і абсалютна пераадольныя. У нашай нядаўняй гісторыі мы годна вытрымлівалі і не такія выпрабаванні!»

Часовыя цяжкасці — гэта як часовая цяжарнасць. Але іншай цяжарнасць у прадстаўнікоў Homo sapiens і не бывае. Ёсць і яшчэ адна аналогія: цяжарнасць выклікаецца ваганнямі, адказнасць за якія нясе знешняя крыніца. Без адкрытасці навакольнаму свету зацяжарыць нельга. Вось як гэту аналогію АП патлумачыў у ліпені: «Сусветны і рэгіянальны эканамічныя крызісы ў апошні час моцна ўдарылі не толькі па нас. Але наша адкрытая эканоміка, адчувальная да ваганняў (выдзелена. — С.Н.) знешніх рынкаў, пакутуе і ад санкцыйных войнаў, якія праводзяцца Захадам і Расіяй».

Прайшло два месяцы. 6 жніўня, прымаючы прэм'ер-міністра Андрэя Кабякова, АП загаварыў на мове вайны: «Я разумею — складанасці і цяжкасці. Але лічыце, што ў нас ідзе ў эканоміцы вайна, ваеннае становішча. І мы павінны зрабіць усё для таго, каб вось у гэтых ваенных эканамічных умовах выканаць тыя задачы, якія перад сабой паставілі, і мы павінны іх вырашыць у гэтым годзе».

Вось такія перамены ва ўспрыманні рэальнасці! І яны былі дасягнутыя ў такія сціслыя тэрміны без тэарэтычнай рэфлексіі. Гэта не наш метад. Наш мае на мэце ўменне «ісці ад жыцця», што і было ў чарговы раз публічна прадэманстравана.

### Не спяшайцеся радавацца

Жыццё дыктуе простыя рашэнні. Калі склады затавараныя, то «першая задача — гэта прадаваць тое, што мы вырабляем».

Д'ябал, як вядома, мае схільнасць хавацца ў дэталях. Таму задача «прадаваць», пастаўленая ў агульным выглядзе, распадаецца на задачы ніжэйшага рангу: «куды прадаваць», «па якім кошце прадаваць» і г. д. Але ўся гэтая сукупнасць падзадач павінна ў выніку дазволіць ураду адказаць на галоўнае пытанне АП: «Грошы, дзе грошы?»

"Усё праходзіць, і гэта пройдзе», — супакойваў нецярплівых і мітуслівых цар Саламон. 22 мая, выступаючы на VII з'ездзе Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, АП надаў біблейскай прыпавесці сучаснае гучанне: «Крызісы прыходзяць і сыходзяць», таму нам варта любой цаной захаваць працоўныя месцы.

Аднак 6 жніўня прэм'ер-міністру давялося выслухоўваць не чарговую прытчу, а жорсткі загад: «Чакаць, што будуць лепшыя часы ў нашых суседзяў, на нашых рынках, не даводзіцца, ва бачыце, як развіваюцца падзеі. Таму давядзецца ісці, праломваць, канкурыраваць на іншыя рынкі. Гэта задача кожнага».

Пры гэтым АП падкрэсліў, што «праломвацца» варта выключна за кошт мер, якія прымаюцца ў пажарным парадку. А «падсунуць нейкія вялікія крокі ў будучыні, і прытым крокі не заўтрашняга дня» ні сабе, ні грамадству ён не дазволіць.

6 жніўня прагучала і такое нязвыклае для лексікону АП слова, як «рэформа». Але не спяшайцеся радавацца. Рэінкарнацыі палітыкі лібералізацыі не плануецца. Мне ўжо даводзілася адзначаць раней, што на выклікі гісторыі палітычныя эліты адказваюць альбо распрацоўкай інавацыйных ідэй, якія адкрываюць новыя творчыя магчымасці, альбо вяртаннем да старых каштоўнасцяў, што апраўдалі сябе ў мінулым, г. зн. «архаізацыяй».

Які шлях выхаду з крызісу абраў АП — ні для каго не з'яўляецца таямніцай, і 6 жніўня ён свой стратэгічны выбар пацвердзіў: «Я глыбока не ўнікаў у гэтыя праблемы, але бачыў, што многія дзяржавы гэта перажывалі, і бачу наступствы падобных рэформаў. У нас таксама ў некаторых сверб, у частцы нашага грамадства: вось не атрымліваецца, патрэбныя нейкія перамены».

Абгрунтаваная асцярога. Прыгадаем «арабскую вясну». Аўтарытарныя рэжымы пакінулі пасля сябе выпаленае інстытуцыянальнае поле. Няма правіл, прымальных для большасці грамадзян. Няма грамадскіх і палітычных арганізацый, здольных адводзіць незадаволенасць. У такіх умовах людзям нічога больш не застаецца, як выходзіць на плошчу.

### Калі не буржуазная, дык якая?

У палітыцы выйгрыш у тактыцы часта вядзе да пройгрышу ў стратэгіі. У сваю чаргу, эфектыўнай стратэгіі без жаданага вобразу будучыні не пабудаваць. «Адсутнасць стратэгіі, — падкрэслівае публіцыст Андрэй Калеснікаў, — звязана з тым, што практычна ўсе дзеянні матываваныя выключна імкненнем захаваць цяперашнія эліты ва ўладзе і законсерваваць сённяшнюю мадэль улады — аўтарытарную, якая імітуе дэмакратычныя працэдуры...»

Аднаўленчы рост канца 90-х і «тлустыя» гады высокіх коштаў на нафту, якія надышлі за ім, паслабілі кіруючую эліту, адвучылі яе думаць пра будучыню. Дасягнутыя ў рамках беларускай мадэлі поспехі сталі ўспрымацца як іманентныя (ад лацінскага «immanens» — «хто жыве ўнутры» — неад'емная якасць прадмета, уласцівая яму па самой яго прыродзе).

Але адсутнасць вобразу будучыні — гэта яшчэ паўбяды. У беларускай эліты за два дзесяцігоддзі так і не склаўся вобраз сучаснасці. Вернемся ў кабінет, у якім адбываецца рабочая сустрэча з прэм'ер-міністра з АП: «Я не хачу стварыць такое буржуазнае або буржуазна-дэмакратычнае грамадства, дзе будзе прорва паміж багатымі, чытай, нашымі бізнесменамі, прадпрымальнікамі, можа, нейкімі чынушамі і гэтак далей, і звычайным народам. Вось гэтая прорва абавязкова прывядзе да скандалу, як мінімум. А як максімум, і мы гэта ўжо праходзілі, — да рэвалюцыяў».

Вось што значыць дзве вышэйшыя адукацыі, атрыманыя ў савецкіх ВНУ. Буржуазнае грамадства! Прорва паміж багатымі і беднымі! Глыбіню гэтай прорвы прынята вымяраць з дапамогай дэцыльнага каэфіцыента — суадносін даходаў 10% самых багатых грамадзян і 10% самых бедных. У буржуазнай Еўропе ён не перавышае 6, прыкладна столькі ж і ў Беларусі.

А хто ў лідарах? Краіны Лацінскай Амерыкі і Цэнтральнай Афрыкі. Напрыклад, у ідэалагічна блізкай нам Венесуэле дэцыльны каэфіцыент у 2011 годзе быў роўны 48.

АП не ствараe буржуазнае грамадства. З гэтым варта пагадзіцца. Буржуазнае грамадства — гэта грамадства з магутнымі гарызантальнымі сувязямі. Буржуазнае грамадства — гэта грамадства, якое складаецца з грамадзян, што ўсведамляюць свае інтарэсы. У буржуазным грамадстве сіла дзяржавы цалкам падпарадкаваная закону, які абараняе індывідуальныя правы і свабоды. Пералічваць можна яшчэ доўга, толькі вось да Беларусі ўсё гэта ніякага дачынення мець не будзе.

Але калі не буржуазнае грамадства, то якое? Няма адказу. Улада сфармуляваць яго не ў стане, і гэта нягледзячы на цэлую армію штатных ідэолагаў. Таму не варта здзіўляцца светапогляднаму вінегрэту ў галовах беларусаў: 30% мяркуюць, што палітычнае жыццё развіваецца ў кірунку дэмакратыі, 24% — аднаўлення ранейшага савецкага ладу, 23% — станаўлення дыктатуры, 11% — нарастання хаосу і 13% — цяжка адказаць (НІСЭПД, чэрвеня 2014 года).

Зварот па дапамогу да тэксту Канстытуцыі праблемы не вырашыць. «Артыкул 1. Рэспубліка Беларусь — унітарная дэмакратычная сацыяльная прававая дзяржава». З вызначэннем «дэмакратычная», як толькі што было прадэманстравана, узнікаюць пытанні. Пакінуўшы за дужкамі вызначэнні «сацыяльная» і «прававая», прапаную разабрацца з асаблівасцю беларускай унітарнасці.

### Акрамя краіны — нічога

Унітарная дзяржава — форма дзяржаўнага ладу, пры якой яе часткі з'яўляюцца адміністрацыйна-тэрытарыяльнымі адзінкамі і, у адрозненне ад федэрацыі, не маюць статусу дзяржаўнага ўтварэння. Такое вызначэнне нам падказвае Вікіпедыя.

Не буду аспрэчваць. Але мы маем справу з прынцыпова іншым тыпам унітарнага. Вось як яго тлумачыць сам АП: «Улада, і прэзідэнт перш за ўсё, я ўжо часта вам пра гэта казаў, павінны кантраляваць самае галоўнае тры рэчы: уладу — яна не прыватызуецца, уласнасць і грошы. Гэта павінна быць перш за ўсё. Ну і потым, я ўжо казаў, ідэалогія ў нас не прыватызуецца і гэтак далей».

Учытайцеся: улада і прэзідэнт павінны кантраляваць... уладу. АП не памыліўся. Для яго паняцці «ўлада» і «прэзідэнт» з'яўляюцца сінонімамі. Нездарма ж ён разглядае сябе ў якасці адзінага палітыка ў краіне.

Улада не прыватызуецца. Г. зн. няма іншых носьбітаў улады акрамя самога АП. Уласнасць і грошы не прыватызуюцца. Гэта значыць, што няма іншых уладальнікаў уласнасці і грошай акрамя самога АП. З ідэалогіяй тая ж гісторыя. І гэтак далей. Такім чынам літаральна ўсё — рухомае і нерухомае, адушаўлёнае і неадушаўлёнае, матэрыяльнае і віртуальнае — не можа быць нікім прыватызавана ў Беларусі, таму што яно ўжо прыватызавана. Здагадайцеся з трох разоў, кім?

Вышэй я казаў пра існаванне прынцыпова іншага тыпу ўнітарнага (ад лацінскага «unitas» — «адзінства»). Але «прынцыпова іншае» не азначае «прынцыпова новае». У якасці каментатара паклічу на дапамогу расійскага гісторыка Юрыя Піваварава: «Ёсць такі тэрмін у навуцы, калі словы «ўлада» і «ўласнасць» аб'ядноўваюцца ў адно слова «ўладаўласнасць». Гэта азначае, што той, хто мае ўладу, той і валодае ўласнасцю. Што ўласнасць не гуляе сама па сабе. Прычым слова «ўласнасць» не зусім дакладнае. Уласнасць — гэта асаблівы прававы інстытут. А тут, хутчэй, гаворка ідзе пра маёмасць».

Такім чынам, беларускі тып унітарнага ўяўляе сабой арганізацыйна-прававую форму камерцыйнай арганізацыі з адным удзельнікам (УП «Беларусь»). Маёмасць унітарнага прадпрыемства знаходзіцца ў прыватнай уласнасці, з'яўляецца непадзельнай і не можа быць размеркавана па ўкладах (долях, паях), у тым ліку паміж работнікамі прадпрыемства.

Але па такім прынцыпе ў Кіеўскай Русі былі арганізаваны княжацкія вотчыны, а тып адносін паміж князем і падданымі амерыканскі гісторык Рычард Пайпс называе патрыманіяльным (радавым).

З тых часоў мала што змянілася. І як тут не пагадзіцца з АП: «У мяне акрамя краіны нічога няма».







# Выбары–2015:
# За каго падпісваемся?

Арцём ЛЯВА

**У Беларусі сваёй чарадой праходзіць электаральная кампанія. Мы прайшліся па пікетах некаторых прэтэндэнтаў на пасаду кандыдата ў прэзідэнты і задалі ім аднолькавыя пытанні. Прапануем іх адказы.**

### Навошта ваш кандыдат ідзе на выбары?

На пікеце Анатоля Лябедзькі прысутнічаў сам прэтэндэнт, які даў разгорнуты адказ:

— На выбары мы не ідзем, наша мэта — дамагчыся, каб выбары былі. Дзеля гэтага мы ўдзельнічаем у цяперашняй палітычнай кампаніі, у якой мы вызначылі канкрэтныя мэты і задачы: па-першае, сабраць доказы, што свабодных і сумленных выбараў у нас няма, і праз гэта не дапусціць міжнароднай легітымацыі нашага кіраўніка, па-другое, мы ставім амбітную мэту — павялічыць колькасць удзельнікаў палітычнага працэсу, бо той грамадска-палітычнай талакой, якую мы зараз маем, немагчыма ставіць амбітныя задачы, быць сілай уплыву на грамадства і сілай уціску на ўладу. А лежачы на канапе новых людзей не знойдзеш. У нас ёсць пэўная выпрацаваная стратэгія ўдзелу ў кампаніі, калі мы выкарыстоўваем магчымасці, якія дае нам закон, і не дазваляем уладам маніпуляваць намі. У нас ёсць рашэнне штабу на 100% выкарыстаць стратэгію мінулай парламенцкай кампаніі. Тады нас не было ў бюлетэнях. Мы не дазволім уладам напісаць нам 0,5% падтрымкі і спекуляваць гэтымі лічбамі. У людзей няма цікавасці да выбараў, але ёсць цікавасць да нашага паслання. Нам хацелася б скарыстаць магчымасць публічных выступаў на радыё і тэлебачанні і на гэтых выступах расставіць кропкі над «і».

Яўген Рыбакоў, сябра Сойму ПБНФ і сябра ініцыятыўнай групы Тацццяны Караткевіч ,упэўнены, што яголая прэтэндэнтка ідзе на перамогу:

— Наш кандыдат ідзе, каб перамагчы і стаць прэзідэнтам, каб навесці парадак у краіне. Галоўная яе задача — дабівацца падвышэння дабрабыту простых грамадзянаў.

На перамогу спадзяецца і сябра ініцыятыўнай групы Сяргея Гайдукевіча, каардынатар па зборы подпісаў Мінскага раёна Аляксандр Піліпчук. Але ён таксама ўважае за добры вынік — саму магчымасць прарэкламаваць ЛДПБ:

— Любы кандыдат ідзе на выбары, каб перамагчы. У дадзеным выпадку, калі не атрымаецца перамагчы, — паўдзельнічаем, нагадаем людзям пра тое, што мы ёсць. Любы кіраўнік палітычнай партыі мусіць удзельнічаць у выбарах, калі не дзеля перамогі, то дзеля піяру.

Сябра ініцыятыўнай групы Аляксандра Лукашэнкі Яўген (прозвішча не назваў) патлумачыў удзел Лукашэнкі ў выбарах ягонай стоадсоткавай упэўненасцю ў сабе:

— Мабыць, ён упэўнены, што можа нешта карыснае зрабіць для краіны, упэўнены ў сваіх сілах, у тым, што абраны шлях правільны.

Студэнтка ВНУ, сябра ініцыятыўнай групы Віктара Цярэшчанкі, якая прасіла не фатаграфаваць яе і не ўзгадваць прозвішча, коротка паведаміла, што яе прэтэндэнт ідзе на выбары, каб заваяваць сімпатыі выбаршчыкаў і стаць прэзідэнтам.

### Ці зможа ваш кандыдат перамагчы ў існуючай сістэме?

— Перамагаць альбо прайграць у сённяшніх выбарах немагчыма. Перамогу вызначаюць лічбы, атрыманыя пры сумленным падліку галасоў, а мы маем справу з чыстай маніпуляцыяй. Мы можам сказаць, што выйгралі кампанію, калі не дапусцім легітымацыі Лукашэнкі, і калі ў нашых шэрагах з'явіцца дастаткова многа новых, цікавых, энергічных, амбітных людзей, гатовых працаваць на перамены, — адказаў старшыня АГП Анатоль Лябедзька.

Сябра ІГ Тацццяны Караткевіч аптымістычна заявіў, што яна можа перамагчы, калі беларускія грамадзяне яе падтрымаюць:

— Мы чакаем нашых грамадзян у Мінску на праспекце Незалежнасці, прыходзьце і падпісвайцеся за нашую прэтэндэнтку. Людзі прыходзяць масава. Гэта будзе замест плошчы. Тут не будуць збіваць палкамі міліцыянты.




Прадстаўнік Сяргея Гайдукевіча не сумняваецца ў справядлівасці айчыннага выбарчага заканадаўства:

— Канешне, мы ні ў якім разе не спрабуем перамагчы нейкім радыкальным чынам. Будзем змагацца за пасаду прэзідэнта выключна законным шляхам. Наш Выбарчы кодэкс стварае для ўсіх кандыдатаў роўныя магчымасці, — перакананы Аляксандр Піліпчук.

Сябры ІГ Лукашэнкі і Цярэшчанкі заявілі пра магчымасць перамогі свайго прэтэндэнта з рознай, адпаведнай статусу, ступенню ўпэўненасці.

### Чым ваш кандыдат лепшы за астатніх?

— Мы для сябе бачым адзінага апанента — існуючы рэжым на чале з А. Г. Лукашэнкам. Таму ў якасці прывабнай эканамічнай альтэрнатывы таму, што здзяйсняў Лукашэнка на працягу 20 гадоў, мы прапануем праграму «Мільён новых працоўных месцаў». Мы таксама прапануем іншае бачанне сістэмы кіравання і палітычнай сістэмы краіны, якое сабрана ў так званай «Малой канстытуцыі», — адзначыў старшыня АГП.

Бэнээфавец Яўген Рыбакоў, які збірае подпісы за Тацццяну Караткевіч, адказаў проста:

— Наша кандыдатка маладзейшая і мацнейшая. Маладосць не адняць. Яна, у адрозненне ад многіх нашых мужчын, яшчэ і смелая. Гэта праўдадыр, за якім можна пайсці.

— Наш кандыдат імкнецца аб'яднаць беларусаў, якія ходзяць як пад чырвона-зялёным, так і пад бел-чырвона-белым

**Як адаб'юцца выбары 2015 года на лёсах дэмакратычных актывістаў, якая будучыня чакае паслявыбарную Беларусь, — загадка**

сцягам, — дадаў сябра ініцыятыўнай групы Алесь.

Прадстаўніка ІГ Лукашэнкі нашае пытанне трошкі збянтэжыла:

— Нават не ведаю, што вам сказаць. Наш кандыдат ужо не першы год паказвае сябе ў справе. Ягоныя справы і вынікі навідавоку. Годнай альтэрнатывы Лукашэнку мы не бачым. Жыццё змяняецца, перад краінай з'яўляюцца новыя выклікі, як унутраныя, так і знешнепалітычныя. Наш кандыдат яшчэ можа шмат чаго карыснага зрабіць на пасадзе кіраўніка краіны.

— Кожны чалавек у чымсьці здольны і выбітны. Я не магу сказаць, што Віктар Цярэшчанка лепшы альбо горшы. Ён хоча рэалізаваць свае эканамічныя праекты, якія дапамогуць нашай краіне выйсці з крызісу, — сказала студэнта, якая збірае подпісы за эканаміста.

— Чым лепшы? Па-першае, у яго вялікі палітычны досвед. Ён шмат гадоў у палітыцы, быў таксама дэпутатам парламента, працаваў у міністэрстве, быў спецпрадстаўніком, выконваў інтэрнацыянальны абавязак. Ваенны чалавек кепскім не бывае, — бадзёра адрапартаваў Аляксандр Піліпчук, сябра ІГ Гайдукевіча.

### Ці зарэгіструюць вашага кандыдата?

На думку прэтэндэнта ў кандыдаты Анатоля Лябедзькі, улада будзе рэгістраваць усіх, хто здасць хоць нейкія подпісы, нават калі іх не будзе 100 тысяч. Такая палітычная ўстаноўка з боку рэжыму.

— Мы ў гэтыя гульні не гуляем і найперш будзем сумленнымі самі з сабой. Паколькі няма выбараў, змагацца за падтрымку, якая выражаецца ў лічбах і ставіцца занадта драматычна, калі не будзе тых сто тысяч подпісаў, мы не будзем. Галоўныя намаганні мы прыкладаем, каб скарыстаць магчымасці, якія нам дае кампанія для рэалізацыі нашых мэтаў і задачаў: недапушчэння легітымацыі Лукашэнкі і павелічэння колькасці заангажаваных у палітычны працэс грамадзян. Мы гэта пачалі рабіць значна раней. Я ўжо два месяцы вандрую па краіне, наведваю рынкі, прахадныя буйных прадпрыемстваў, бяру мегафон і выступаю перад людзьмі. Калі нам удасца сабраць 100 тысяч подпісаў, мы зробім яшчэ крок. У нас яшчэ нейкі шанец ёсць, але для гэтага хуткасць збору подпісаў неабходна павялічыць, — кажа спадар Лябедзька.

Са старшынёй АГП пагаджаецца і сябра ІГ Тацццяны Караткевіч Яўген Рыбакоў:

— Я лічу, што зарэгіструюць усіх, нават тых, хто не назбірае галасоў. Гэта выгадна ўладзе, каб расцярушыць галасы выбаршчыкаў з альтэрнатыўнымі Лукашэнку поглядамі.

Сябра ІГ Сяргея Гайдукевіча на 100% упэўнены ў тым, што ягонага прэтэндэнта зарэгіструюць, і адзначае, што неабходная колькасць подпісаў ягонай камандай нібыта ўжо сабраная, а пікеты стаяць выключна як інфармацыйныя. У рэгістрацыі ўпэўнены таксама сябры ІГ Лукашэнкі і Цярэшчанкі, з якімі мы размаўлялі.

Такім чынам, палітычная кампанія пад назвай «прэзідэнцкія выбары» працягваецца. І калі агульны фармальны вынік прадказаць даволі проста, тое, як адаб'юцца выбары 2015 года на лёсах дэмакратычных актывістаў, што ўсё-такі ўвязаліся ў кампанію, якая будучыня чакае паслявыбарную Беларусь, — загадка.

TV

## 23 ЖНІЎНЯ, НЯДЗЕЛЯ

**1 Беларусь**

**05.55** Мастацкі фільм «Мая любімая пачвара».
**09.00** Навіны.
**09.10** «Арсенал». Праграма пра армію.
**09.40** Тэлесерыял «Два бацькі і два сыны».
**10.45** «50 рэцэптаў першага». Кулінарнае шоў.
**11.25** XXL WOMAN TV. Жаночы часопіс.
**12.00** Навіны.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** Зона Х. Вынікі тыдня.
**13.05** Вялікі рэпартаж.
**13.40** Каробка перадач.
**14.15** Вакол планеты.
**15.00** Навіны.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Мастацкі фільм «Не пакідай мяне каханне».
**17.25** Мастацкі фільм «Анюціна шчасце».
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Клуб рэдактараў.
**22.50** Навіны надвор'я.
**23.15** Мастацкі фільм «Шлях да сэрца мужчыны».
**00.55** Тэлесерыял «Два бацькі і два сыны».

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** Смяшарыкі.
**09.35** Шалапутныя нататкі.
**09.55** Пакуль усе дома.
**10.40** «Фазэнда».
**10.15** Ідэальны рамонт.
**12.25** Мастацкі фільм «Каханая жанчына механіка Гаўрылава».
**13.55** Мастацкі фільм «Анёл у сэрца».
**11.55** Чорна-белае.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Уладзімір Мігуля.
**17.20** Музычны фэст КіВіН.
**20.00** Контуры.
**22.10** Мастацкі фільм «Флірт са зверам».



**00.00** Мастацкі фільм «Развод».

**ТВ**

**06.20** «Афрамасквіч». Камедыйны серыял.
**07.10** «Сардэчна паскардзіцца».
**07.30** «Вялікі вальс».
**09.20** Дакументальны праект.
**10.15** «Чыстая праца».
**11.00** «Вялікі сняданак».
**11.40** «Салдаты 4». Серыял.
**13.30** «24 гадзіны».
**13.40** «Жалезная маска».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Дакументальны праект.
**17.45** «Ваенная таямніца».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.25** «Спяшайся кахаць».
**22.15** «Званая вячэра».
**00.00** «Жалезная маска».
**02.05** «Масква. Дзень і ноч».

**2 Беларусь**

**07.05** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**08.45** Камедыйны серыял «Шчаслівыя разам» (Расія).
**10.35** Я хачу гэта ўбачыць!
**11.15** Тэлебарометр.
**11.20** Ваша лато.
**11.50** Латарэя «Пяцёрачка».
**12.10** Камедыйны серыял «Мая цудоўная няня» (Расія).
**14.15** Арол і рэшка. Шопінг.
**15.15** Тэлесерыял «Аднакласнікі».
**17.05** Мастацкі фільм «Фантастычная чацвёрка».
**18.10** «Comedy woman». Гумарыстычная шоу-праграма Расія.
**19.15** Суперлато.
**20.05** Тэлебарометр.
**20.40** Кіпень.
**21.00** Мазгавы штурм.
**21.40** Спортлато 5 з 36, КЕНА.
**21.45** Камедыйны серыял «Шчаслівыя разам» (Расія).
**23.25** Халі-галі.

**3 Беларусь**

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Халоднае лета пяцьдзесят трэцяга…» Драма (СССР, 1987 г.).



**09.45** «Подых струн». Музычная праграма. Госць: Вольга Залеская.
**10.30** «Мелодыі лета. Вялікая бард-рыбалка-2015».
**12.00** «Наперад у мінулае».
**12.30** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**13.25** «Калейдаскоп».
**13.35** «Вікторыя і Альберт». Гістарычная драма. 1-2 серыі (Вялікабрытанія-ЗША, 2001).
**16.35** «Запаведнымі сцежкамі беларускай зямлі». Дакументальны фільм.
**17.30** «Грані Перамогі». Дзень Перамогі.
**17.55** «Музеі Беларусі». Мірскі замак. Ч. 1-2.
**18.50** «Калейдаскоп».
**19.00** «Пан афарміцель». Фантастычная драма (СССР, 1988 г.).
**20.45** «Калыханка».
**21.00** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**21.55** «Вікторыя і Альберт». Гістарычная драма. 1-2 серыі (Вялікабрытанія-ЗША, 2001).
**00.55** «Калейдаскоп».

**5 Беларусь**

**06.40** PRO спорт. Навіны.
**06.55** Тэніс. Турнір ВТА. Цынцынаці. 1/2 фіналу.
**08.55** Тэніс. Турнір ВТА. Цынцынаці. 1/2 фіналу.
**10.55** Веславанне на байдарках і каноэ. Чэмпіянат свету. Прамая трансляцыя.
**13.00** Авертайм.
**13.25** Лёгкая атлетыка. Чэмпіянат свету. Прамая трансляцыя.
**16.30** Аўтаспорт. Чэмпіянат Беларусі. 5-ы этап. Брэст.
**17.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Эвертан» - «Манчэстэр Сіці». Прамая трансляцыя.
**19.55** Футбол. Чэмпіянат Беларусі. «Тарпеда-БелАЗ» - «Дынама» (Мінск). Прамая трансляцыя.
**22.00** Тэніс. Турнір ВТА. Цынцынаці. Фінал. Прамая трансляцыя.
**00.00** Пляжны футбол. Еўраліга. Суперфінал.
**01.10** Баскетбол. 3х3.Чэмпіянат Еўропы. U-18.
**02.05** PRO спорт. Навіны.

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.15** Аўтаспынам па Беларусі.
**07.35** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**07.50** Два на два (тэледыскусія): Аляксандр Пашкевіч і Аляксандр Пагарэлы: Міфы і праўда II сусветнай вайны.
**08.20** Прыгоды і паходы, спазнаваўчы мультсерыял: Прывіды.
**08.30** Ліс Леон, мультсерыял.
**08.40** Польскія казкі і паданні, мультсерыял.
**08.55** Мова нанова: Птушкі.
**09.25** Мова нанова: Горад.
**09.40** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**10.05** 54 % (публіцыстычная праграма).
**10.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**10.50** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Крэатыў на сацыяльна-палітычным полі, альбо Чаго не стае беларускай апазіцыі.
**11.20** Час гонару, серыял.
**12.05** Дом Сабілы, рэпартаж.
**12.25** Mad Men. Утрапёныя III, серыял.
**13.15** Новенькая, дэтэктыўны серыял.
**14.05** Злодзеі ў законе: Жыццё атрымалася, д/ф.
**15.35** Нэлсан Мандэла: жыццё дзеля свабоды, д/ф.
**16.30** Мілаш Форман: «Тое, што цябе не забівае..», д/ф.
**18.10** Невядомая Беларусь: Цень манументу, д/ф.
**18.40** Вандроўкі па Гарадзеншчыне.
**18.50** Пацалунак Пуціна, д/ф.
**19.50** Востраў Крым. Deja vu, д/ф.
**20.25** Побач з намі (зборнік рэпартажаў).
**20.45** Загадкі беларускай гісторыі: Пошукі першага Менску.
**21.00** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма): Мікіта Бяляеў.
**21.15** Генрых V, м/ф.
**23.30** Mad Men. Утрапёныя III, серыял.
**00.20** Зоры не спяць: Крысціна Вітушка.
**00.50** Мент, дэтэктыўны серыял.
**01.45** Minsk-Mixt–2008. канцэрт гурта «Ветах».

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афарміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 301274 1108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ____
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ____

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 4500 руб., аднаго месяца — 18000 руб.
**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

| Счет получателя | 3012741108019 | Лицевой счет | Код 739 |
|---|---|---|---|
| УНП* | 190790926 | | |

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ______
Всего ______

Кассир

# Чаго чакаць ад пана Дуды?



Алег НОВІКАЎ

**Хоць Польшча — парламенцка-прэзідэнцкая рэспубліка, прэзідэнт адыгрывае важную функцыю ў фармаванні знешняга курсу дзяржавы. Прэса СНД намагаецца зразумець, як Анджэй Дуда паўплывае на польскую ўсходнюю палітыку.**

Спіч новаабранага польскага гаранта падчас інагурацыі 6 жніўня ў прэсе літаральна расклалі па паліцах. У тым ліку зразумець, хто такі Анджэй Дуда, спрабуюць на прасторах былога СССР, дзе Польшчу ўспрымаюць як фронтмэна ЕС на ўсходніх кардонах і вядучага рэгіянальнага амерыканскага саюзніка.

Яшчэ напярэдадні ў СМІ краін СНД пачаліся спекуляцыі наконт тэзаў, якія меў агучыць у сваёй першай афіцыйнай прамове новы польскі прэзідэнт. Расійскія СМІ чакалі, што новы гаспадар Бельведэру атакуе папярэдніка Камароўскага за падтрымку бандэраўцаў з Майдану. Украінскія, у сваю чаргу, марылі пачуць ад новага кіраўніка Польшчы дакладнае пасланне наконт падтрымкі аспірацый Украіны стаць сябрам Еўрасаюза.

І першыя, і другія памыліліся ў разліках. Анджэй Дуда падчас прамовы адмовіўся ад радыкальнага перагляду існуючых алгарытмаў. Па яго словах, замежнай палітыцы Польшчы патрэбна «не рэвалюцыя, а карэктывы». Галоўнай такой карэктывай Дуда бачыць узмацненне мілітарнай бяспекі краіны — задача не толькі непасрэдна палякаў, аднак і краін-сябраў NATO, ад якога выступоўца нават патрабаваў гарантый.

Адсутнасць у інаўгурацыйнай прамове блоку пра ўкраінскае пытанне дала падставу лаяльным расійскім СМІ казаць пра перамогу ў Варшаве нейтральнай опцыі. Маскоўская «Парламентская газета» піша: «Можна меркаваць, што ён (Дуда) не стане безаглядна падтрымліваць сённяшняе кіраўніцтва Украіны, як гэта рабіла адміністрацыя папярэдняга прэзідэнта, не стане скрозь пальцы глядзець на афіцыйную заканадаўчую герaізацыю ідэйных паслядоўнікаў тых, хто ў 1943-м арганізаваў Валынскую разню. (...) Цалкам магчыма, што разуменне нацыянальных інтарэсаў Польшчы яе новым прэзідэнтам падштурхне яго адысці ад палітычнай канфрантацыі з Расіяй і разгарнуць узаемавыгаднае эканамічнае супрацоўніцтва».

Аднак з такім падыходам не пагаджаюцца ў Кіеве і ў лагеры расійскай апазіцыі. Сапраўды, Дуда нічога не сказаў пра Украіну 6 жніўня, аднак напярэдадні будучы прэзідэнт даў шэраг цікавых каментараў. Гэтыя заявы, на думку антыпуціністаў, сведчаць пра ягонае жаданне пакінуць Польшчу ў статусе важнага гульца ва ўкраінскім працэсе. Па-першае, Дуда заклікаў змяніць «нармандскі фармат» перамоваў па Украіне, дадаўшы да іх Польшчу. З улікам гэтага блізкая да антыпуцінскай апазіцыі радыёстанцыя «Эхо Москвы» паведаміла, што «цяпер не варта чакаць, што ў польска-рускіх адносінах будзе прыкметнае паляпшэнне».

Па-другое, Дуда нечакана ўзгадаў пра праект Чарнаморска-балтыйскага саюза (ЧБС). Напярэдадні інаўгурацыі ў адным з інтэрв'ю ім было сказана: «Я абдумваю ідэю стварэння партнёрскага блока дзяржаваў ад Балтыйскага да Чорнага і Адрыятычнага мораў. (...) Дзяржава моцная тады, калі яе атачаюць саюзнікі — гэта таксама элемент павелічэння сілы», — перакананы Дуда.

Гэтая фраза багата цытуецца ва Украіне, дзе апошнім часам не расчараваліся ў непаслядоўнасці ЕС. З іншага боку, канфлікт на Данбасе спрыяў росту кааперацыі Варшавы, Вільнюса і Кіева, як бы ствараючы фундамент для магчымых палітычных канструкцый. Дарэчы, фармальны нейтралітэт Мінска лічыцца знакам таго, што ў арбіту такой канструкцыі патэнцыйна можа ўвайсці і Беларусь.

«Новы прэзідэнт Польшчы абяцае адрадзіць «Міжмор'е», ускосна намякаючы на новыя перспектывы. Канфедэратыўны строй «Міжмор'я» можа стаць наймацнейшым штуршком для развіцця рэгіёну, у тым ліку дзякуючы ўключэнню новых рынкаў і магчымасцяў лагістыкі паміж Еўропай і Азіяй. Украіна на гэтым шляху атрымлівае моцную ролю — ролю аднаго з лакаматываў канфедэрацыі — своеасаблівых «Злучаных Штатаў Еўропы». Дамаўляючыся і ўступаючы ў саюз з роўнымі, Украіна, магчыма, забяспечыць будучыню і ўстойлівае развіццё для свайго народа, а таксама ўвасабленне мары кожнага ўкраінца — удзел у еўрапейскіх працэсах з улікам інтарэсаў нацыі», — піша выданне «Хвиля».

У сваю чаргу, расійскія СМІ намагаюцца асудзіць ухваленне ўкраінскім грамадствам ідэі адраджэння БЧС. Выданне «Rosinform» піша: «Ідэя Рэчы Паспалітай ад Балтыйскага да Чорнага мора з дамінаваннем Польшчы з'яўляецца гістарычным міфам, які, так ці інакш, прайграецца ў пэўных культурных і палітычных асяроддзях польскага грамадства. Адсюль і гэты вядомы метафарычны вобраз Варшавы як адваката Кіева ў Еўропе. Украінскі крызіс дае шанец польскім палітыкам актыўна праявіць сябе на гэтым напрамку. Дуда будзе выступаць тут з рознымі палітычнымі ініцыятывамі. Аднак варта ўлічваць, што адносіны ва ўсе перыяды гісторыі паміж гэтымі суседзямі былі, мякка кажучы, няпростыя. Можна не сумнявацца, што Варшава, пры ўсіх сваіх геапалітычных амбіцыях, будзе вельмі асцярожна будаваць адносіны з радыкальна нацыяналістычным Кіевам».

Менш патрыятычна экзальтаваная прэса ў Расіі і Украіне прапануе дачакацца парламенцкіх выбараў у кастрычніку, па выніках якіх мы атрымаем комплексны малюнак усіх польскіх галінаў улады на бліжэйшыя пяць гадоў. З улікам яе спецыфікі Дуда, хутчэй за ўсё, і будзе рабіць знешнепалітычныя крокі — у тым ліку на ўсходнім накірунку.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Мясцовая эканамічна актыўная грамадскасць будавала версіі адносна таго, як улада Беларусі будзе паводзіць сябе перад прэзідэнцкімі выбарамі: ці ўстрымаецца ад папулісцкіх крокаў? Заяву Лукашэнкі эксперты расцанілі як курс на перадвыбарчую папулісцкую палітыку, якую ўраду давядзецца праводзіць. Кабякоў ужо заявіў, што аднаўленне эканамічнага росту — галоўная задача ўрада на другое паўгоддзе. Аналітыкі ніякіх перадумоў для эканамічнага росту не бачаць. Сітуацыя на галоўным рынку збыту — расійскім — не выклікае аптымізму. Разам з коштам нафты падае расійскі рубель. У гэтай сітуацыі беларускія экспарцёры зноў пачынаюць несці страты пры працы на рынак РФ. Выратаваць ад стратаў можа толькі сінхронная дэвальвацыя беларускай нацыянальнай валюты. Аднак такі крок абавязкова прывядзе да росту коштаў і здольны парушыць устойлівасць фінансавай сістэмы ў цэлым.

**«Независимая газета» (Расія)**

Якім «адзіным саюзнікам» з'яўляецца Беларусь, можна ўбачыць па тым, якія сумы Лукашэнка кожны раз урывае ў Пуціна. Не выключаецца, што апошняе інтэрв'ю таксама зроблена з той жа мэтай, але сказанае слова не высечы сякерай, і відавочна, што Беларусь павольна, але дакладна ідзе да суверэнітэту. Лукашэнка ўжо прыступіў да стварэння нацыянальнай арміі. Да гэтага часу ў краіне не было такой, і на яе тэрыторыі размяшчаліся расійскія войскі. Зараз міністэрства абароны краіны «чысціць» войска ад рускіх і прызначае этнічных беларусаў. Многія эксперты кажуць, што калі так пойдзе і далей, Беларусь стане для Расіі такой праблемай, што Украіна будзе падавацца кветачкамі.

**Daily.com.ua. (Украіна)**

Крэмль, выкарыстоўваючы механізм ЕАЭС, паспрабуе паўплываць таксама на іншыя дзяржавы аб'яднання. Найбольш праблемным у дадзеным кантэксце для Украіны з'яўляецца экспарт у Беларусь. Пакуль што, нягледзячы на ўсе спробы, Украіне ўдалося выбудаваць сапраўды эфектыўныя двухбаковыя ўзаемаадносіны з Мінскам, наяўнасць якіх дазволіла б хоць неяк змяніць сітуацыю на карысць Кіева. Будучыя выбары ў Беларусі зробяць Аляксандра Лукашэнку больш згаворлівым з Крамлём. А значыць, Кіеў наўрад ці зможа істотна змяніць сітуацыю на сваю карысць.

**«Главком» (Украіна)**

Падаецца, Лукашэнка ўсё гэтак жа спадзяецца на прызнанне выбараў з боку Еўрасаюза і працяг сваёй міратворчай місіі з мэтай паразітавання на ёй. Вось толькі, відаць, ужо ніхто не верыць у шчырасць беларускага прэзідэнта. Нават на Украіне, дзе ў навінавых выданнях па тэме інтэрв'ю беларускага прэзідэнта незалежным медыя галоўным загалоўкам стаў: «Лукашэнка распавёў, у якім выпадку гатовы ваяваць з Украінай».

**«REGNUM» (Расія)**

Мінск — гэта самы еўрапейскі рускі горад. Руская гаворка пераважае ў беларускай сталіцы. Санкт-Пецярбург занадта марудлівы, хмурны і старамодны, каб лічыцца самым еўрапейскім рускім горадам. Мінск жа — хуткі і сучасны, ды і тэрытарыяльна ён значна бліжэй да сапраўднай Еўропы, чым Піцер.

**«Известия» (Расія)**

Літва, якая ўвесь час дэманструе непахіснасць у пытанні аб антырасійскіх санкцыях, адкрыта праяўляе цікавасць да партнёрства з Мінскам. Вільнюс хоча ўзмацніць эканамічныя сувязі з Беларуссю за кошт Еўрасаюза. У прыватнасці, згадваўся праект атрымання ад Бруселя больш за 200 мільёнаў еўра, у тым ліку і на стварэнне транспартнага калідора «Усход — Захад»: чыгункі ад літоўска-беларускай мяжы да Клайпедскага порта, па якой ажыццяўляецца асноўны беларускі транзіт.

**«Взгляд» (Расія)**

Атамны інструмент Крамля ўсё больш пашырае сетку сваіх АЭС па ўсім перыметры ад Балтыйскага да Чорнага мораў. (...) Так што ўсе размовы аб сумеснай эксплуатацыі БелАЭС на роўных, а то і нейкіх беларускіх умовах не маюць падстаў у рэальнасці. Самаўпэўнены марш Пуціна на Захад дае падставы казаць пра тое, што Балтыйская і Беларуская АЭС заклiканы быць фарпостамі інтарэсаў Крамля ў дадзеным рэгіёне.

**«Delfi» (Літва)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РУМЫНІЯ. Кароль пазбавіў прынца правоў на трон

Скандал у каралеўскім доме Румыніі, дзе манарх не кіруе, аднак мае вялікі аўтарытэт у грамадстве. Галава каралеўскага дому, былы кароль Міхай, заявіў, што пазбаўляе свайго 30-гадовага ўнука Мікалая права займаць трон. Прычына, па яго словах, — учынкі прынца, якія не адпавядаюць «маральным прынцыпам». Што гэта за ўчынкі, Міхай не канкрэтызаваў. Магчыма, таму румыны масава спачуваюць цяпер ужо былому прынцу. Ён нарадзіўся за мяжой, жыве ў Румыніі толькі 5 гадоў і даволі папулярны, дзякуючы розным гуманітарным акцыям і прапагандзе веласіпеднага спорту. У красавіку ён зрабіў велатур у 600 кіламетраў, збіраючы грошы для хворых дзяцей. Не дзіўна, што ў масавай свядомасці нарадзіліся самыя неверагодныя фантазіі наконт прычын рашэння 94-гадовага Міхая. Напрыклад, кажуць, што сапраўднай прычынай была загадкавая прыгажуня, якую не падзялілі арыстакраты. Так ці інакш, папулярнасць Мікалая каласальна вырасла. Сам прынц кажа, што не вельмі шкадуе, што пазбавіўся шанцаў на карону.

**Паводле брытанскай прэсы**

### УКРАІНА. Капейкі стануць рублямі

Народны дэпутат Украіны Алег Мусій (фракцыя «Блок Пятра Парашэнкі») зарэгістраваў у парламенце праект закона, які прапануе замяніць назву найменшай грашовай адзінкі ў краіне «капейка» на «рубель». Заняцца незвычайнай рэформай Мусія штурхнула цяга да гістарычнай справядлівасці. «Са шматлікіх гістарычных крыніц вядома, што меншай часткай грыўні быў менавіта рубель. І менавіта рубель, а не капейка, быў часткай грыўні. З часу ўвядзення ва Украіне грыўні без гістарычнага абгрунтавання яе меншую частку назвалі «капейка», — каментуе сваю заканадаўчую ініцыятыву Мусій. Паводле дэпутата, прыняцце названага законапраекта «адновіць гістарычную справядлівасць у выкарыстанні назвы рубля як меншай часткі грашовай адзінкі ва Украіне — грыўні». Прасцей кажучы, адна грыўна будзе складацца са 100 рублёў. Ініцыятыва выклікала буйны інтарэс грамадства, аднак большасць каментатараў заклікаюць дэпутата зняцца больш сур'ёзнай справай.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. Сумны юбілей аграрыяў

Польская народная партыя (PSL), якая прадстаўляе інтарэсы сялян, адзначыла гістарычны юбілей: 120 гадоў таму на тэрыторыі Галіцыі, якая ўваходзіла ў склад Аўстра-Венгрыі, была заснаваная аднайменная партыя. У адрозненне ад іншых польскіх партый, якія паўсталі ў той час, аграрыі ўмудрыліся дасюль заставацца ў першым эшалоне мясцовай палітыкі. Нават камуністы не рызыкнулі забараніць PSL пасля прыходу да ўлады. Сяляне атрымалі гарантаванае месца ў Сейме і ў мясцовых органах улады з умовай прызнання вядучай ролі камуністаў у грамадстве. Нягледзячы на вернасць рэжыму, аграрыі здолелі выжыць і пасля дэмакратызацыі, нават часам будучы сябрамі шэрагу як правых, так і левых кабінетаў. Аднак усё гэтыя дасягненні не радуюць цяперашніх правадыроў PSL. На дварэ парламенцкая кампанія, і PSL упершыню ў гісторыі можа не атрымаць мандатаў. За два месяцы да галасавання ў аграрыяў усяго два працэнты падтрымкі.

**Паводле польскай прэсы**

### АРМЕНІЯ. Кур'ёз на Панармянскіх гульнях



У Арменіі закончыліся VI Панармянскія гульні (міжнародныя спаборніцтвы, што праводзяцца з 1999 года, у якіх удзельнічаюць спартоўцы-армяне з усяго свету). Мэтай Панармянскіх гульняў з'яўляецца аб'яднанне армян з розных краін праз спорт, умацаванне сувязяў паміж Арменіяй і армянскай дыяспарай. На гэты раз у Гульнях прынялі ўдзел каля 6 тысяч спартсменаў, аднак спаборніцтвы хутчэй запомняцца кур'ёзам з камандай па настольным тэнісе з Нідэрландаў. Тэнісісты прыбылі на турнір з двухгадзінным спазненнем, якое патлумачылі тым, што ўсе надпісы і тлумачэнні былі толькі на армянскай мове. Гісторыя выклікала вялікі скандал у тым ліку таму, што яе распавялі ўсе азербайджанскія СМІ. На іх думку, гэты эпізод падкрэслівае наяўнасць сур'ёзнай праблемы, якая ставіць пад сумнеў адзінства армян у Арменіі і армян у дыяспары. «Той факт, што армяне-замежнікі не змаглі прачытаць інструкцыі і абвесткі на сваёй «роднай» армянскай мове, адназначна абвяргае сцвярджэнне арганізатараў аб прыналежнасці ўсіх удзельнікаў Гульняў да «непадзельнай армянскай самабытнасці», — пішуць у Баку, дзе вельмі незадаволеныя тым, што часткова Гульні праходзілі на тэрыторыі акупаванага Нагорнага Карабаху.

**Паводле армянкай прэсы**

# Час і палітыка

Алег НОВІКАЎ

**Паўночная Карэя вырашыла ўвесці ў краіне асобны час, каб «не жыць у адным часавым поясе з імперыялістычнымі марыянеткамі з Сеулу». Вялікі правадыр Кім Чэн Ын — не першы, хто пераводзіць стрэлкі ў палітычных мэтах.**

Палітычныя супярэчнасці наконт таго, як павінна выглядаць табло гадзінніка, выявіліся яшчэ на першай мерыдыяльнай канферэнцыі 1884 года ў Вашынгтоне, дзе былі зафіксаваныя часавыя паясы і ўведзены славуты нулявы мерыдыян, які, як вядома, праходзіць па Грынвічу. Варыянт з Грынвічам не вельмі спадабаўся шэрагу краін. Увогуле, на працягу гісторыі было каля 30 варыянтаў нулявога мерыдыяну, уключаючы славуты Мерыдыян Фера — мерыдыян, які праходзіць праз Канарскі востраў Іеро (раней Фера), пра які ў 150 годзе пісаў яшчэ Клаўдзій Пталамей.



**30**

**варыянтаў нулявога мерыдыяну, уключаючы славуты Мерыдыян Фера, які праходзіць праз Канарскі востраў Іеро (Фера), існуе ў свеце**

Найбольш былі незадаволеныя Грынвічам французы, у якіх з XVII стагоддзя быў свой нулявы парыжскі мерыдыян. Суперніцтва паміж Парыжам і Грынвічам мела таксама экзатэрычны прысмак. У колах акультыстаў парыжскі мерыдыян чамусьці разглядаўся як частка плану масонаў. Лічылася, што гэта лінія паказвае шлях да нейкай сакральнай тайны ордэну. Гэтая байка ў нашы часы была выкарыстаная аўтарам кнігі «Код да Вінчы».

Не падтрымала вынікі Вашынгтонскай канферэнцыі і Расійская імперыя. На геаграфічных картах Расійскай імперыі з 1840-х гадоў нулём адліку часу быў Пулкаўскі мерыдыян — мерыдыян, які праходзіць праз цэнтр Круглай залы галоўнага будынка Пулкаўскай абсерваторыі, што пад Санкт-Пецярбургам. Цікава, што той мерыдыян таксама праходзіў і праз Магілёў. Турыст, які прыязджаў, напрыклад, у еўрапейскую частку Расійскай імперыі, павінен быў перавесці стрэлкі на сваім гадзінніку на 2 гадзіны адну хвіліну і 18 секунд наперад. Урад Расіі не далучаўся да міжнароднай сістэмы часавых паясоў аж да Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Наступная рэвізія вынікаў Вашынгтонскай канферэнцыі была звязаная з праблемай летняга часу. Сутнасць спрэчкі вядома кожнаму. Адны лічаць, што за кошт пераводу стрэлак можна павялічыць светлую частку сутак, што спрыяе эканоміі. Іх апаненты кажуць, што штучны час кепка ўплывае на арганізм.

Яшчэ з пачатку XX стагоддзя на Захадзе пачаліся дэбаты наконт ідэі пераводзіць стрэлкі ўзімку і ўлетку. За кожным лагерам стаяла сур'ёзнае лобі. Кропку ў гэтай дыскусіі паставіла Першая сусветная вайна, калі краіны дзеля эканоміі энергіі пачалі адна за адной уводзіць летні час. Піянерам аказалася Германія ў 1916 годзе. Яе прыкладу паследавалі краіны Атланты, уключаючы ЗША ў 1918-м.

Вайна прывяла таксама да часавых рэформаў на акупаваных тэрыторыях. Так, пасля фактычнай акупацыі Украіны нямецкімі войскамі ў 1918 годзе ў Кіеве было прынята рашэнне аб пераводзе ўкраінскіх гадзіннікаў з расійскага часу на берлінскі.

Часавая рэформа шмат для каго стала сімвалам вайсковага — чытай ненармальнага — стану. Таму пасля заканчэння Першай сусветнай шмат якія краіны вярнуліся да старых правіл. Гэта ў сваю чаргу выклікала шэраг канфліктаў паміж цэнтральным урадам і мясцовымі ўладамі, якія намагаліся эканоміць і далей. Напрыклад, Нью-Ёрк нейкі час жыў па «вайсковаму часу», а штат навокал — па «мірнаму». Увогуле, вайна «за» і «супраць» пераводу стрэлак не закончылася на Захадзе дасюль. Апошняй арэнай канфрантацыі была Аўстралія, дзе ў штаце Кліўленд у 2009 годзе нават давялося праводзіць рэферэндум наконт гэтага пытання. На плебісцыце з 55 працэнтамі галасоў падтрымкі верх узялі праціўнікі пераводу стрэлак.

Апісаны феномен успрыняцця ў масавай свядомасці пераводу стрэлак згуляў забаўны жарт з Гітлерам. Германія пасля Версалю таксама вярнулася да даваеннага часу. Толькі на другі год вайны ў 1940-м у Берліне вырашылі ўвесці зімовы і летні час. Улетку 1942-га, калі Вермахт прарваў фронт на поўдні СССР і пачаў імклівы наступ у напрамку Волгі і Каўказу, фюрэр пастанавіў адмовіцца ад летняга часу, што мусіла сімвалічна значыць хуткі канец вайны і пачатак нармалізацыі сітуацыі. Аднак гісторыя вырашыла інакш, і хутка немцы зноў пачалі пераводзіць стрэлкі.

Канчаткова практыку зімовага і летняга часу ў Еўропе замацаваў энергетычны крызіс 1973 года. Пасля таго, як нафта зноў стала таннай, тыя рашэнні не перагледзалі, паколькі тэма рацыянальнага выкарыстання энергіі нефармальна стала часткай ідэалогіі ЕС. А вось на ўсходзе кантыненту дасюль пануе анархія. Свой мясцовы час быў адным з першых патрабаванняў рухаў за незалежнасць у рэспубліках СССР. Той жа лозунг падхапілі сепаратысты ў новых дзяржавах. Напрыклад, у 1990-я гады лакальны час быў у Закарпацці і ў Крыме. Перайсці на маскоўскі час збіраюцца сепаратысты Данбасу.

Ісламская рэвалюцыя ў Іране і рост ролі ісламу паўплывалі на час у краінах з мусульманскім насельніцтвам. Тут паступова адмовіліся ад пераводу стрэлак, паколькі, на думку знаўцаў ісламу, гэта парушае нормы, якім павінны следаваць вернікі ў святы месяц Рамадан. Пачынаючы з 2008 года ідзе дыскусія пра тое, каб мусульманскія краіны разам перайшлі на час Меккі, дзе павінен праходзіць нулявы мерыдыян.

Апошнія буйныя гульні з пераводамі гадзіннікаў мелі месца ў Расіі і ў Венесуэле. Як вядома, прэзідэнцкая кадэнцыя Мядзведзева запомнілася адмовай ад летняга часу. Хаця палітычнай матывіроўкі тут не было, пазней яна з'явілася дзякуючы Беларусі. Мінск таксама адмовіўся ад пераводу стрэлак, матывуючы гэта таксама геапалітычнай салідарнасцю.

У 2006 годзе прэзідэнт Венесуэлы Уга Чавес змяніў часавы пояс краіны. Па патрабаванні Уга гадзіннікі былі пераведзеныя на паўгадзіны назад, у выніку чаго мясцовы час стаў адрозніваца ад грынвічскага на чатыры з паловай гадзіны, а не на чатыры, як раней. Па словах аднаго з чыноўнікаў у Каракасе, новаўвядзенне мусіла дапамагчы дзецям з бедных сем'яў, якім даводзіцца ўставаць да ўзыходу сонца, каб іці ў школу.

Аднак гульні са стрэлкамі — не самае жудаснае, што могуць рабіць палітыкі.



# Як жывуць у ДНР

**Прыкладна год таму на Данбасе стабілізавалася лінія фронту, у выніку чаго пад кантролем сепаратыстаў засталася частка Данецкай і Луганскай абласцей. Пра тое, як жывуць у самаабвешчаных рэспубліках, журналісту НЧ Алегу Новікаву распавядае данецкі чыгуначнік і прафсаюзны актывіст Іван Сурмін.**

***— Зараз на фронце зноў абвастрылася сітуацыя. Як на гэта рэагуюць жыхары Данецку?***

— У горадзе спакойна, хаця ўвесь час чуваць артылерыйскую кананаду. За год людзі неяк звыкліся з гэтым. А вось жыхароў Горлаўкі шкада. Там зараз рэгулярныя абстрэлы.

***— Пра што можна думаць і што рабіць, калі прыкладна ў 10 кіламетрах ад цябе падаюць снарады?***

— Галоўным чынам людзі занятыя вырашэннем сацыяльных праблемаў. У Данецку масавае беспрацоўе. Нават калі ёсць праца, заробкі надоўга затрымліваюць. У нас на прадпрыемстве ў ліпені выдалі заробак за люты-сакавік. Сітуацыю на рынку працы яшчэ больш пагоршыла нядаўняе масавае вяртанне людзей, якія без поспеху спрабавалі ўладкавацца ў Расіі.

***— Які зараз сярэдні заробак у Данецку?***

— У мяне асабіста заробак 2000 грыўнаў — каля 90 долараў ЗША, што менш, чым у сярэднім па Украіне, дзе атрымліваюць каля 150 долараў. У дадатак кошты на прадукты ў Данецку большыя, чым па той бок фронту. Голаду, у тым ліку дзякуючы гуманітарнай дапамозе, няма, аднак жаданне нешта з'есці прысутнічае заўсёды.

***— Зараз на двары спякотнае лета. Ці адпачываюць жыхары Данецку?***

— Гэта залежыць ад матэрыяльнага стану. З-за недахопу сродкаў большасць праводзіць адпачынак на стаўках вакол Данецку. Таксама можна дазволіць сабе тур на тую частку берагу Азоўскага мора, якая кантралюецца ДНР. Гэта некалькі вёсак у 10–15 кіламетраў ад лініі сутыкнення. Сярэдні клас абірае Крым. Напэўна, ёсць і такія, хто наведвае замежныя курорты.

***— Украінская прэса піша, што вайна не паўплывала на памеры продажаў элітных аўто. Іншымі словамі, нейкая група насельніцтва робіць гешефт на вайне. Ці падняўся хто-небудзь у Данецку пасля Майдану?***

— Натуральна. Перш за ўсё, гэты тыя, хто ў патрэбны час прымазаўся да сілавых структур, якія займаліся перадзелам маёмасці і рэкетам буйных прадпрыемстваў. Узняліся гандляры таварамі паўсядзённага спажывання, якія вельмі часта звязаныя з этнічнымі абшчынамі.

***— На інтэрнэт-форумах даводзілася сустракаць думку пра тое, што ў ДНР-ЛНР ідзе жорсткая вайна з крыміналам, у адрозненне ад Украіны, дзе злачынцы, выкарыстоўваючы партыйныя лейблы, адчуваюць сябе дастаткова вольна. Які стан злачыннасці на Данбасе?***

— Цяжка зразумець, дзе злачынец, а дзе не, паколькі часта злачынцы знешне не адрозніваюцца ад міліцыі. У прынцыпе, злачынстваў стала менш, аднак толькі дзякуючы таму, што адсюль выгналі расійскіх казакоў, якія займаліся дробным рабаваннем. Галоўным чынам барацьба ідзе не з крыміналам, а з марадзёрамі. Увогуле, тут такі рэжым, што тут кашлянуць жахліва, а не тое, што нешта скрасці.

***— У кастрычніку ў нефармальных рэспубліках плануюцца мясцовыя выбары. Хто мае шанцы на перамогу? Ці ёсць у ДНР апазіцыя?***

— Пераможцу можна назваць ужо зараз. Гэта будзе рух «Данецкая рэспубліка», які пабудаваны на базе партструктур былой «Партыі рэгіёнаў» пад фігуру Аляксандра Захарчанкі. Захарчанку таксама падтрымлівае алігарх Ахметаў, які захоўвае свае аб'екты ў рэгіёне. Магчыма, у саветы пусцяць фэйкавых апазіцыянераў, накшталт камуністаў. Нейкай апазіцыяй можна было лічыць групоўку «рэвалюцыянераў» — тых, хто першы пачаў пратэсты супраць Кіева і зараз тусуецца вакол героя антыўкраінскіх пратэстаў Губарава. Яны зацікаўленыя ў больш сацыялістычным характару праекту ДНР, выступаюць за нацыяналізацыю маёмасці Ахметава. Аднак апошнім часам на «рэвалюцыянераў» моцна ціснуць — аж да іх выкрадання. Магчыма, таму яны зараз не вельмі палітычна актыўныя.

***— Ці дапускаюць абывацелі прыход украінскага войска і аднаўленне ўкраінскай адміністрацыі? Якое стаўленне да тых жыхароў Данбасу, якія жывуць на ўкраінскай тэрыторыі?***

— Адказнасць за ўсе праблемы апошніх часоў, як правіла, ускладаюць на Украіну. Гэта калектыўная думка. У магчымасць вяртання пад кантроль Кіева не вераць, і нават такі варыянт не абмяркоўваюць. Аднак падобныя рашэнні прымаюцца ў іншым месцы. У СМІ будуецца сапраўдны культ Захарчанкі, якому надаюць статус выратавальніка Данецка ад каральнікаў-бандэраўцаў. Калі Захарчанка скажа, што Данбасу трэба быць аўтаномнай часткай Украіны, як патрабуюць Мінскія дамовы, яго паслухаюць. Што тычыцца тых, хто жыве на ўкраінскім Данбасе, то гэтыя людзі ў такім жа цяжкім стане, як і мы. Там таксама яшчэ паспрабуй знайдзі працу.

***— Ці адчуваецца ў эканамічным жыцці прысутнасць Расіі? У Кіеве пішуць пра пагрозу інтэграцыі Данбасу ў склад расійскай гаспадаркі.***

— Пакуль выключна на ўзроўні наяўнасці ў грашовым абароце рускіх рублёў і прытоку расійскіх брэндаў. У гэтым плане можна казаць пра інтэграцыю Данбасу ў беларускую гаспадарку. У Данецку пачалі адкрываць крамы, якія гандлююць выключна беларускімі таварамі. Учора бачыў новую такога кшталту камерцыйную кропку пад назвай «Белая бяроза».

***— Як бачаць жыхары Данецку будучыню Данбасу?***

— Лічыцца, што вайна рана ці позна закончыцца. ДНР зможа ўключыць у свае межы ўсю Данецкую вобласць. Пасля пачнецца адбудова вытворчасці. Вось так. Напэўна, прымітыўна, аднак добра, што мы ўвогуле яшчэ здольныя пра нешта марыць.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Мурат Талібекаў



Супраць лідара Саюза мусульман Казахстана распачалі крымінальную справу за абразу нацыянальнага гонару і годнасці грамадзян Казахстана. Справа абяцае быць унікальнай нават для казахскай Феміды, якая ігнаруе шматлікія нормы права. Калі верыць следству, Талібекаў абразіў грамадзян у кнізе, якая не была надрукаваная. Прычым сам факт злачынства меў месца 15 гадоў таму, калі аўтар спрабаваў надрукаваць свой твор пад назвай «Вецер з вуліцы». У выніку доўгіх паходаў па рэдакцыях Талібекаў так і не знайшоў выдаўца. Аднак нейкім чынам праз 15 гадоў група грамадзян здолела знайсці і прачытаць «Вецер з вуліцы», каб адчуць сябе абражанымі. Другі момант справы Талібекава звязаны з асаблівасцямі Саюза мусульман. Нягледзячы на сур'ёзную назву, гэтая групоўка даўно і творча займаецца тролінгам улады. Магчыма, перасled Талібекава неяк звязаны з адной з апошніх выхадак Саюза мусульман. Так, напрыканцы ліпеня «мусульмане» падтрымалі кампанію ўладаў па барацьбе з карупцыяй, заклікаўшы прымусіць хабарнікаў выконваць функцыі тэрмічных матрацаў у гатэлях для замежных гасцей, а таксама, выкарыстоўваючы цяпло свайго цела, саграваць астылы чай. Такая «падтрымка» моцна дыскрэдытавала кампанію. Застаецца дадаць, што Талібекаву па гэтым артыкуле пагражае да 7 гадоў турмы.

### Даніэль Скіолі



Губернатар аргенцінскай правінцыі Буэнас-Айрэс, сябра ўрадавай перанісцкай «Партыі справядлівасці», стаў фаварытам прэзідэнцкіх выбараў, якія адбудуцца ў краіне 25 кастрычніка. Гэта стала зразумела пасля так званых папярэдніх выбараў, якія прайшлі 9 жніўня. Папярэднія выбары — вельмі дзіўная для еўрапейскай палітычнай культуры імпрэза, якая хутчэй нагадвае сацыялагічнае апытанне. Так ці інакш, Скіолі набраў больш за ўсіх — 38 працэнтаў галасоў. Асноўны праціўнік ад права-цэнтрысцкай кааліцыі мае каля 30 працэнтаў. Скіолі лічыцца пратэжэ цяперашняга дастаткова левага прэзідэнта Крысціны Кіршнер, якой канстытуцыя забараняе балатавацца на трэці тэрмін. Аднак палітолагі лічаць, што ў выпадку перамогі Скіолі палітыка адміністрацыі зменіцца ў правым накірунку. Скіолі некалькі разоў крытыкаваў курс Кіршнер на падтрымку дзяржаўнага сектару і выступаў за больш мірны дыялог з Захадам. У сваю чаргу, палітолагі заклікаюць не спяшацца, паколькі да выбараў яшчэ два месяцы, і можа адбыцца ўсё што заўгодна. Перш за ўсё карэктывы ў палітычных сімпатыях аргенцінцаў могуць выклікаць навіны з валютнай біржы. У гэтым годзе мясцовы песа на трэць патаннеў адносна долара ЗША і працягвае падзенне.

### Генадзь Корбан



Адзін з лідараў украінскай партыі «Укроп», правая рука алігарха Каламойскага, па рашэнні кіраўніцтва партыі прызначаны кандыдатам на кастрычніцкіх выбарах кіеўскага мэра. Навіны ад «Укропу» вельмі ўсхвалявалі ўкраінскае грамадства. На памяці нядаўнія мажарытарныя выбары ў Чарнігаве, дзе «Укроп» прадстаўляў усё той жа Корбан. Яго выбарчая кампанія стала беспрэцэдэнтнай нават у параўнанні з часамі Януковіча спробай подкупу выбаршчыкаў, якім ад кандыдата «Укропу» адкрыта раздавалі ежу. Над офісам «Укропу» вісеў банер: «Лепш раздаваць ежу, чым абяцанкі». Для ціску на выбарчыя камісіі Корбан заклікаў у Чарнігаў мілітарныя фармаванні правых радыкалаў. Атрымаўшы 15 працэнтаў, сам Корбан падаў у адстаўку з пасады старшыні «Укропу». Аднак цяпер, як бачым, ён вяртаецца ў вялікую палітыку. Украінскія палітолагі лічаць, што гэта не пойдзе на карысць украінскай дэмакратыі. Нават калі абыдзецца без раздачы грэчкі і прыезду батальёнаў, чакаецца моцны зліў кампрамату на канкурэнтаў Корбана праз медыя Каламойскага. Паколькі ўсе канкурэнты Корбана так ці інакш былі звязаныя з рэвалюцыяй годнасці, іх кампраметацыя па-сутнасці будзе працаваць на разбурэнне міфу Майдану.

# Праваслаўе ў Заходняй Беларусі: аўтакефалія і беларусізацыя



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**На працягу кароткіх «нулявых саветаў» у 1920 годзе бальшавікі паспелі паралізаваць працу цэркваў і касцёлаў на заходнебеларускіх землях. Святароў знішчалі, прымушалі эміграваць, цэрквы зачынялі.**

## Шлях да аўтакефаліі

Пасля «рыжскага міру» праваслаўная царква на тэрыторыі Другой Рэчы Паспалітай фармальна знаходзілася пад юрысдыкцыяй маскоўскага патрыярхату. Варшава разумела, што з цягам часу нават «атэістычная» Масква можа паспяхова згуляць на рэлігійным фактары і выкарыстаць яго ў справе маніпуляцыі няпольскім насельніцтвам (беларусамі і ўкраінцамі). Таму палякі зрабілі акцэнт на гістарычную сувязь праваслаўя на землях Першай Рэчы Паспалітай з Канстанцінопалем, але не з Расіяй.

У маі 1920 года (яшчэ падчас баявых дзеянняў польска-бальшавіцкай вайны) быў абраны кіраўнік праваслаўнай царквы ў Польшчы. Ім стаў біскуп Уладзімір Ціханіцкі. Аднак ён быў настроены «прарасійскі» і нават меў кантакты з патрыярхам маскоўскім Ціханам. За гэта ў чэрвені 1921 года святар страціў сваю пасаду. У гэты ж час з Балканаў вярнуўся праваслаўны біскуп Юры Ярашэўскі. Улады Другой Рэчы Паспалітай паважалі яго за тое, што ён не ўдзельнічаў у русіфікатарскай дзейнасці праваслаўнай царквы ў часы Расійскай імперыі, а таксама ненавідзеў савецкую ўладу.

16 верасня 1921 года адбылася канферэнцыя ў Міністэрстве рэлігійных веравызнанняў і публічнай асветы, падчас якой біскупа Юрыя (пры падтрымцы міністра Мацея Ратая) абралі кіраўніком праваслаўнай царквы. Масква ў асобе патрыярха Ціхана прызнала Ярашэўскага прадстаўніком маскоўскага праваслаўя ў Польшчы. У студзені 1922 года ў колах польскіх праваслаўных святароў адбывалася дыскусія па пытанні абвяшчэння аўтакефаліі. 30 студзеня 1922 года былі прыняты «Часовыя прадпісанні, рэгулюючыя адносіны паміж польскім урадам і праваслаўнай царквой», якія хутка набылі форму закона (дарэчы, гэты дакумент рэгуляваў дзейнасць праваслаўя на тэрыторыі Польшчы на працягу ўсяго міжваеннага дваццацігоддзя).

На сінадальным зборы ў Пачаеўскай лаўры ў маі 1922 года зноў было выказана жаданне рухацца да аўтакефаліі. Праз год там жа, у Пачаеве, быў створаны Сінадальны вучэбны камітэт, які адказваў за вывучэнне «закона Божага» ў пачатковых і сярэдніх свецкіх школах. На месцах, у мястэчках і вёсках праваслаўныя святары разглядалі аўтакефалію як здраду «рускаму праваслаўю». Супраць аддзялення ад «трэцяга Рыму» выступалі і шматлікія «белыя» эмігранты як у Польшчы, так і ў іншых усходнееўрапейскіх краінах.

8 лютага 1923 года мітрапаліт Юры быў застрэлены адэптам маскоўскага патрыярхату архімандрытам Смарагдам. Новым кіраўніком польскага праваслаўя стаў біскуп Дыянісій. У гэты ж час актыўна абмяркоўвалася пытанне, на якой мове праводзіць набажэнствы ў праваслаўнай царкве. Восенню 1924 года сінод пашырыў правы выкарыстання беларускай мовы ў набажэнствах і дазволіў вывучэнне рэлігіі на роднай мове.

17 верасня 1925 года ў варшаўскай царкве Святой Марыі Магдалены афіцыйна было абвешчана стварэнне Аўтакефальнай праваслаўнай царквы на польскіх землях. У студзені 1930 года мітрапаліт Дыянісій сустрэўся з прэзідэнтам Другой Рэчы Паспалітай Ігнацыем Масціцкім. Палітык і рэлігійны дзеяч абмеркавалі комплекс мерапрыемстваў, неабходных для канчатковага правядзення аўтакефаліі. Пазней з'явілася спецыяльная ўрадава-праваслаўная камісія, якая рэгулявала дзейнасць «рускай» царквы. Яна распрацавала дэкрэт «Аб адносінах дзяржавы да польскага аўтакефальнага праваслаўнага касцёла», які прэзідэнт Масціцкі падпісаў 18 лістапада 1938 года, а 10 снежня Рада міністраў зацвердзіла так званы «Унутраны статут», які рэгуляваў дзейнасць польскага праваслаўя.



1937 год. Прысяга праваслаўных жаўнераў Войска Польскага ў Брэсце

На тэрыторыі міжваеннай Польшчы дзейнічалі Валынская, Варшаўская, Гродзенская, Віленская і Пінская (ці Палеская) праваслаўныя дыяцэзіі. Варта адзначыць, што ў 1930-я гады каталіцкі касцёл спрабаваў рэанімаваць уніяцтва на тэрыторыях Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны і ў гэтай справе часта ўмешваўся ў дзейнасць праваслаўя. Пры гэтым урад фінансаваў дзейнасць праваслаўнай царквы. У 1936 годзе на падтрымку «аўтакефальных» з бюджэту было выдаткавана 1 мільён 333 тысячы 600 злотых. Выплачваліся стыпенды маладым святарам, а таксама фінансаваўся рамонт цэркваў.

18 лістапада 1939 года быў зацверджаны «Унутраны статут», які замацаваў поўнае падпарадкаванне праваслаўнай царквы польскай дзяржаве, а галоўнай мовай набажэнстваў афіцыйна была зацверджана польская. У маі 1939 года міністр веравызнанняў зацвердзіў статут праваслаўнай кансісторыі, а праз месяц заканадаўча былі акрэслены маёмасныя правы праваслаўнай царквы на польскіх землях.



Мітрапаліт Дыянісій

## Барацьба за беларусізацыю

У сярэдзіне 1920-х — пачатку 1930-х гадоў на тэрыторыі Заходняй Беларусі беларуская інтэлігенцыя і святары спрабавалі зрабіць усё, каб праваслаўе на гэтых тэрыторыях мела беларускі характар.

З лютага 1925 года там выдаваўся часопіс «Праваслаўны беларус». Сябар польскага Сената беларус Вячаслаў Багдановіч у 1927 годзе стварыў Праваслаўнае беларускае дэмакратычнае аб'яднанне, якое актыўна выступала за пашырэнне беларускай мовы ў царкоўных набажэнствах, а таксама за вывучэнне «закона Божага» ў школах па-беларуску. Сам сенатар неаднаразова выступаў супраць правядзення праваслаўных набажэнстваў на польскай мове.



Царква ў Глыбокім. 1930-я гады

У пачатку 1930-х гадоў у былой сталіцы Вялікага Княства Літоўскага выдавалася некалькі беларускіх праваслаўных выданняў (напрыклад, «Голас праваслаўнага беларуса» і «Царква і народ»), якія, аднак, не змаглі істотна паўплываць на сітуацыю праваслаўя ў Заходняй Беларусі.

У Вільні вакол беларускай гімназіі сфармавалася плынь, якая выступала за беларусізацыю праваслаўнай царквы ў Заходняй Беларусі. Дырэктар гімназіі Радаслаў Астроўскі ў 1929 годзе даслаў віленскаму ваяводзе ліст, у якім прасіў аддаць у распараджэнне навучальнай установы Мікалаеўскую царкву з усёй маёмасцю.

1 сакавіка 1930 года ў Вільні прайшоў з'езд праваслаўных беларусаў, у якім удзельнічалі жыхары Ваўкавыскага, Вілейскага і Маладзечанскага павета, а таксама прадстаўнікі віленскай беларускай гімназіі і іншыя дзеячы беларускіх арганізацый. У выніку быў створаны Цэнтральны беларускі праваслаўны камітэт (ЦБПК). Яго асноўным выданнем павінен быў стаць часопіс «Светач Беларусі». Большасць даследчыкаў адзначаюць, што гэтая арганізацыя мела моцны палонафільскі накірунак. Што ж тычыцца мовы набажэнства, то сябры ЦБПК выказваліся за тое, каб беларуская выкарыстоўвалася ў пропаведзях для мясцовага насельніцтва, а таксама ў набажэнствах для беларусаў, жаўнераў Войска Польскага.

У 1937 годзе дзейнасць камітэта па справе беларусізацыі праваслаўя актывізавалася. Вялікая заслуга ў гэтым была рэктара Віленскай духоўнай семінарыі, архімандрыта Піліпа.

## Школа і войска пад кантролем

У адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэчы Паспалітай ад 17 сакавіка 1921 года, у кожнай навучальнай установе, якую наведвалі дзеці да 18 гадоў, уводзілася абавязковае выкладанне «закона Божага». У лютым 1928 года польскія ўлады дазволілі выкладанне рэлігіі ў пачатковых школах на роднай мове, калі гэтага пажадаюць бацькі вучняў.

У канцы 1920-х гадоў на Віленшчыне ў большасці школ такія заняткі адбываліся па-беларуску, і толькі невялікі працэнт школ у якасці мовы выкладання выкарыстоўваў рускую. Аднак з пачатку 1930-х гадоў улады ўзялі кірунак на паланізацыю праваслаўнай царквы і фарміраванне з жыхароў няпольскіх тэрыторый «праваслаўных палякаў».

Дзеля гэтага выкладанне «закона Божага» пераводзілася на польскую мову. Тое ж тычылася і царкоўных набажэнстваў. У сярэдзіне 1930-х гадоў маладых святароў сталі накіроўваць на вучобу на факультэт праваслаўнай тэалогіі Варшаўскага ўніверсітэта. За іх адукацыю і пражыванне плаціў польскі ўрад. Яны павінны былі стаць апорай у паланізацыі праваслаўя ва ўсходніх ваяводствах.

У ліпені 1935 года ў Беластоку з'явілася «Аб'яднанне праваслаўных палякаў імя Юзафа Пілсудскага», якое выступала за поўны перавод набажэнстваў у цэрквах на польскую мову. Паступова падобныя арганізацыі з'явіліся і ў іншых гарадах Заходняй Беларусі. У Гродна быў створаны «Дом праваслаўных палякаў імя Стэфана Баторыя». У 1937 годзе гродзенскім праваслаўным біскупам стаў Сава, а віленскім — Матфей. Абодва былі прыхільнікамі паланізацыі праваслаўнай царквы. Некаторыя выданні тады пісалі, што яшчэ ўчора гэтыя і іншыя святары русіфікавалі насельніцтва, а зараз займаюцца яго паланізацыяй.

Паланізацыя не абмінула і войска. 11 лістапада 1935 года ў шматлікіх гарнізонах Войска Польскага (у тым ліку і ў Брэсце) прайшлі праваслаўныя набажэнствы на польскай мове. А ў 1938 годзе камандуючы III карпуснай акругай у Гродна генерал Юзаф Альшчына-Вільчынскі загадаў разабраць гарнізонную праваслаўную царкву.

У канцы 1930-х гадоў кіраўніком Галоўнага ўпраўлення праваслаўнага духавенства Войска Польскага быў ксёндз-дэкан (адпаведнік вайсковага звання падпалкоўнік) Сымон Федарэнка. Ён паходзіў з праваслаўнай украінскай сям'і. Яго бацька быў святаром у вёсцы Чарткоў. Падчас Вераснёўскай кампаніі 1939 года Сымон разам з падначаленымі знаходзіўся ў Роўна. Там ён і трапіў у савецкі палон і апынуўся ў лагеры Казельскі. Вясной 1940 года праваслаўнага капелана забілі ў Катыні.

## Ігар Варашкевіч:
# «Мару больш часу надаваць унучцы!»

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**Упэўнены, што ў будучым такім музыкантам, як Ігар Варашкевіч, знойдзецца месца і ў Беларускім саюзе кампазітараў, і на канцэртах з нагоды самых важных дзяржаўных мерапрыемстваў. І ўжо дакладна, што такія ўніверсальныя творцы, як Варашкевіч, будуць узнагароўвацца званнем «Заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь», а да іх юбілеяў на дзяржаўныя сродкі будуць выдавацца анталогіі твораў.**



**Ігар Варашкевіч на «Амбасовішчы–2012».** Фота Анатоля Мяльгуя

На жаль, да разумення значнасці ўнёску ў нацыянальную культуру шматлікіх незалежных творцаў нашай дзяржаве пакуль мала справы. Дзякаваць Богу, што ёсць выданні, якія захоўваць для будучых даследчыкаў імёны тых, хто прысвяціў сваё жыццё стварэнню сучаснай нацыянальнай культуры. Так, па звестках даведніка «Хто ёсць хто ў Беларусі», 15 жніўня бягучага года Ігару Варашкевічу, лідару гурта «Крама», споўніцца 55 гадоў. З гэтай нагоды мы запрасілі Ігара да перадюбілейнай размовы.

***— Вялікую частку свайго жыцця вы, Ігар, прысвяцілі музыцы. На жаль, названы даведнік не дае поўных звестак пра творчы шлях беларускіх артыстаў. Таму нашым чытачам найперш будзе цікава даведацца, колькі вы ўжо працуеце на беларускай рок-сцэне і ці памятаеце свой першы канцэрт?***

— У гэтым годзе мне спаўняецца не толькі 55, але і 30 гадоў маёй афіцыйнай беларускамоўнай музычнай дзейнасці. Канцэртаў за гэты час адбылося шмат, таму першы канцэрт запомніўся не так выразна. Хутчэй за ўсё, ён адбываўся ў зале Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута, дзе ў пачатку 80-х гадоў мінулага стагоддзя працаваў гурт «Бонда», у якім я спяваў з 1983 па 1989 год.

***— Пасля «Бонды» вы працавалі ў гурце «Крама» — адным з самых тытулаваных у Беларусі. Раскажыце, якая ўзнагарода для вас асабіста была самай дарагой і памятнай?***

— Гэта, безумоўна, наша «Рок-Карона» 1994 года. Памятаю цудоўную атмасферу гэтай першай айчыннай музычнай прэміі: прыйшло шмат аматараў маладога беларускага року, на гэтай «каранацыі» прысутнічаў тагачасны міністр культуры Беларусі А. Бутэвіч, кампазітар Э. Ханок і спявак В. Вуячыч. З рук арганізатараў мы ўпершыню атрымалі Вялікую рок-карону. Гэта, безумоўна, быў найлепшы ў гісторыі гурта «Крама» час!

І на ўсё жыццё ўдзячны тагачаснаму дырэктару кампаніі «Дайнова» Адаму Палюховічу, які дапамагаў беларускім музыкам, і ўвогуле беларускаму незалежнаму мастацтву ў той цяжкі, але незабыўны перыяд! Наша «Рок-карона-94» у вялікай ступені і заслуга гэтага беларускага мецэната.

***— За ўсе гады вашай працы ў гуртах «Бонда», «Рокіс» і «Крама» вам даводзілася супрацоўнічаць з рознымі музыкамі. Хто з іх пакінуў у вашай памяці найбольшы след, паўплываў на вас як чалавек і музыкант?***

— Ну, калі браць «Бонду», дык, безумоўна, адзначу ўплыў яркага і віртуознага музыканта, гітарыста Івана Маркава ды тагачаснага бубнача і самабытнага паэта-тэкставіка Сержука Кныша, з якімі мы разам напісалі такія хіты, як «Слуцкая Брама», «Стэфка»... Калі казаць пра «Краму», то я вельмі ўдзячны ўсім хлопцам, з якімі працаваў і працягваю працаваць такі доўгі час. Ну і, безумоўна, было вельмі прыемна супрацоўнічаць з вядомым расійскім блюзменам, лідарам гурта «Лига блюза» Мікалаем Аруцюнавым, які добра вывучыў нашу мову, і мы разам стварылі праект «Мікалай Аруцюнаў & The Blues Barbarians». Яго складам мы далі некалькі канцэртаў, запісалі па-беларуску кампазіцыю «Бяжы, хлопец». Таксама ў розныя часы моцна паўплывалі на мяне і шэраг замежных гуртоў і выканаўцаў, такіх, як Джымі Хендрыкс, Led Zeppelin, Free, Dire Straits, AC/DC, польскія гурты, якія ў 80-х утварылі плынь «музыкі млодай генэрацыі» (MMG).



**Песні Свабоды ад «Крамы».** Фота Анатоля Мяльгуя

**У вольны ад канцэртаў і рэпетыцый час працую над удасканальваннем тэхнікі ігры на электрычнай гітары, хаця гэта трэба было рабіць раней**

***— Як стварающца песні і іх аранжыроўкі ў «Краме» — калектыўна альбо па накірунку вашага аўтарытэту? Ці патрэбная рок-музыканатам цвёрдая рука?***

— Цвёрдая рука можа і не патрэбна, бо аўтарытарызм не спрыяе асэнсаванай творчасці. Але і анархіі ў камандзе не павінна быць, бо тады таксама нічога не атрымліваецца. Значыць, каб гурт дасягнуў творчых мэтаў, трэба казаць пра звычайную дысцыпліну: удзельнікам гурта важна ў час і рэгулярна наведваць рэпетыцыі, удзельнічаць у агульнай творчай працы гурта, карацей, жыць яго патрэбамі, яго жыццём...

Што тычыцца нашых песень, то практычна ўсе мелодыі пішу сам, словы потым дадаюць паэты, якія стала супрацоўнічаюць з «Крамай» — Наста Гулак, Зміцер Лукашук і іншыя. А вось апрацоўка тэм робіцца разам, хоць у апошніх альбомах гэтай справай у большасці займаўся наш гітарыст Сяржук Трухановіч.

***— Ці магчымы сёння праект па перазапісу класічных кампазіцый гурта «Бонда», у якім вы доўгі час працавалі, і ці ёсць зацікаўленасць беларускага грамадства гэтымі кампазіцыямі?***

— Не думаю, што такі праект патрэбны, бо час змяніўся настолькі, што гэта стала нікому не патрэбным. Да таго ж, і музыкантаў таго класічнага «бондаўскага» складу сабраць практычна немагчыма.

Мне больш даспадобы праекты кшталту «25 АБ-БА АРКЕСТР'а», які разам з беларускамоўнымі дзеткамі і музыкантамі з Беласточчыны выклікаў сапраўдны фурор на «Басовішчы–2014». У гэтым праекце, які рэалізаваўся дзякуючы ініцыятыве вядомага беластоцкага музыканта Юркі Асеннікі, удзельнічалі не толькі дзеці, але і музыканты з Беларусі — А. Памідораў, Л. Вольскі, ну і я. У выніку мы запісалі някепскі дыск, на якім разам з іншымі гучаць «бондаўскія» гіты «Слуцкая Брама» і «Стэфка».

***— Цяпер стала модным наракаць на крызіс у беларускай рок-музыцы. На вашу думку, гэты крызіс сапраўды існуе? Калі так, дык у чым яго карані і ці ёсць рацыянальнае выйсце з такога становішча?***

— Беларуская рок-музыка не раз зазнавала крызісы, таму што некаторым нашым музыкантам (часта таленавітым!) неставала мэтанакіраванасці, большасць з іх хацела атрымаць усё і адразу. Маю на ўвазе папулярнасць, канцэрты, грошы... Дадайце моўную непаслядоўнасць: адны спявалі па-руску, другія — па-беларуску, а трэцця намагаліся па-англійску (ці, дакладней, на «русліш» — нягеглай сумесі «Russian» і «English»). Вось, на маю думку, складнікі гэтага крызісу, які можна пераадолець толькі ўпартай творчай працай, удасканальваннем свайго выканаўчага майстэрства, цвёрдай пазіцыяй адносна роднай мовы. Па маім назіранням, ёсць маладыя каманды, якія мне падабаюцца менавіта гэтымі якасцямі. Маю на ўвазе гурты «Re1ikt», «Navi», «Nizkis»...

***— Ведаю, што вы — чалавек шырокіх захапленняў і зацікаўленасцяў. А чым канкрэтна падабаецца займацца, калі вы вольныя ад канцэртаў? Якую ролю ў вашым жыцці адыгрывае сям'я?***

— У вольны ад канцэртаў і рэпетыцый час шмат працую над удасканальваннем тэхнікі ігры на электрычнай гітары, хаця гэта трэба было рабіць нашмат раней. Люблю турызм з рыбалкай, добрае кіно. У мінулым годзе нарадзілася мая ўнучка, якой хутка трэба будзе надаваць больш увагі і часу.

***— Па афішах і па тэлерэкламе можна заўважыць, што 55-годдзе свайго лідара гурт «Крама» вырашыў адзначыць шэрагам канцэртаў. Адзін з іх адбудзецца ў рэстаране-бровары «Сябры» (вул. Кульман, 40). Якая праграма чакае вашых прыхільнікаў на юбілейным канцэрце?***

— Я не збіраюся святкаваць сваё 55-годдзе, але калі атрымаю прапанову зрабіць канцэрт з гэтай нагоды, то згадзіўся. Хочацца зноў парадаваць сяброў і прыхільнікаў «Крамы» нашымі новымі песнямі і старымі гітамі. Няхай яны адпачываюць! Таму запрашаю вас, сябры, 30 жніўня а 19 гадзіне ў рэстаран-бровар «Сябры» на канцэрт гурта «Крама», дзе вас чакаюць шчырыя мелодыі і добры рок-н-рольны драйв!

# Свежы подых кіно

Пятро КАМЕНЬ

**Малады беларускі фестываль кароткаметражнага кіно «Cinema Perpetuum Mobile» ладзіць фестываль «БелКінаЛета CPM–2015». Па вечарах пятніцы раз на два тыдні ў «чырвоным дворыку» за Нацыянальным гістарычным музеем адбываюцца прагляды ігравых, дакументальных, анімацыйных фільмаў ад сучасных беларускіх аўтараў.**

Трэцяя фестывальная пятніца — 26 ліпеня — дазволіла шчыльна пазнаёміцца з творчасцю беларускага дакументаліста Ігара Чышчэні. Чацвёртая — 7 жніўня — была цалкам прысвечана ігравым кароткаметражным фільмам Сяргея Каласоўскага.

Ігар Чычшэня быў прадстаўлены пяццю дакументальнымі стужкамі, а таксама двума відэакліпамі. Адзін з фільмаў распавядае пра малавядомага беларускага паэта 1920–1930-х гадоў Віктара Казлоўскага, чый творчы лёс быў абарваны НКУС ды савецкай псіхіятрыяй у 1937 годзе.

Фільм «Подых балот» — гэта экалагічна ангажаваны сацыяльны фільм, прысвечаны сучаснай меліярацыі беларускіх балот ды побыту вясковых жыхароў на тых тэрыторыях. Структурна ў фільме можна вылучыць тры сэнсавыя блокі: тэкставая інфармацыя аб асушэнні беларускіх балот дзеля эканамічна стратнай галіны торфаздабычы; хараство ды прыгажосць беларускай багны; аповеды мясцовых жыхароў з бліжэйшых да меліяраваных тэрыторый вёсак пра іх лад жыцця, неад'емнай часткай якога было і ёсць балота ды збор журавінаў на тым балоце.

Але, па сутнасці, вострасацыяльная гісторыя падаецца як паэтычная замалёўка аб (часткова) страчаным хараастве прыроды.

Сяргей Каласоўскі навучаецца ў Варшаўскай школе кіно. Прадстаўленыя ў праграме фільмы прэзэнтуюць хутчэй творчае развіццё ды сталенне, фармаванне аўтарскага выказвання. Пяць ігравых стужак «Письмо», «Мечтая о Мексике», «Пари», «Пугач» і «Шепоты и крики Тани Б.» паказваюць гэтае сталенне творчай думкі ў храналагічным парадку.



Што ёсць мастацкая праўда ў кінематографе? Гэта супадзенне мноства фактараў, увязаных адзін з адным, якія і фармуюць цэласнае ўспрыманне фільма. Гук, святло на пляцоўцы, колеры ў кадры, ракурс сцэны, мантаж, сцэнар, акторская ігра. Безліч фактараў, якія служаць толькі адной мэце — данесці пэўнае мастацкае выказванне аб рэчаіснасці, расказаць гісторыю праўдзіва. Найбольш складанае — у гэтым і праяўляецца сапраўдны талент рэжысёра — перанесці на экран характар. Кіно бывае з кепскім колерам ды кепскім гукам, з няўцямнай апаратарскай працай, але ўсё гэта па вялікім рахунку толькі дапаможныя складнікі ў найвялікшай задачы кіно як мастацтва — паказаць драму характару.

Фільмы Сяргея маюць колер, аператарскую працу, мантаж, «дыханне» — чаргаванне гучных ды спакойных сцэн, акторскі ансамбль, музыку, але драматургія персанажаў усё яшчэ фармуецца, становіцца. Гэта не фільмы, у якія «верыш». Персанаж дзейнічае, развіваецца на працягу фільма, але табе — уважліваму гледачу — застаецца пачухаць патыліцу ды спытацца ва ўласнага паразумення: «І што, гэтак сапраўды бывае?!»

4-хвілінны эцюд «Письмо» распачаў праграму вечара. Цягнік, вёска, брэх сабак, снег. Чалавек (ролю выконвае музыка ды актор Ілля Чарапко-Самахвалаў) ідзе да хаты, ваколіцы якой іншы чалавек расчышчае ад снегу. Яны сустракаюцца позіркамі, ідуць у хату. Першы прамаўляе: «Мать умерла». Ягоны больш дарослы візаві прапаноўвае выпіць. Сын (як аказалася) устае ды прамаўляе поўны юначай агіды тост бацьку, п'е стопку гарэлкі, перадае яму перадсмяротны ліст ад маці ды выходзіць. Бацька маўкліва сядзіць на месцы. Сын па снезе сыходзіць у далячынь. Цітры.

«Письмо» выглядае як спроба стварыць у кадры напружаную драматычную сітуацыю. Назваць яе ўдалай складана. Не зразумелыя ні персанаж бацькі, адзіная рэпліка якога за ўвесь фільм — прапанова выпіць, ні прычыны такой празмернай эмацыйнасці сына — актор у фільме не выглядае такім ужо юнаком. Зрэшты, складана апісваць уражанні ад фільма, які, на жаль, не пакінуў аніякіх уражанняў. Уся прастата сюжэта ды ягоная эмацыйная кульмінацыя — прамова сына — пакідаюць у непаразуменні, не выклікаюць аніякага суперажывання.

Такія сюжэтныя неадпаведнасці ды штучнасці ўласцівы, на жаль, для большыні фільмаў аўтара, прадстаўленых у праграме.

Стужка «Шепоты и крики Тани Б.» вылучаецца з шэрагу. Зняты ў Мінску ў мікраараёне Уручча, фільм падобны на спробу дэпрэсіўнай змрочнай сацыяльнай драмы. Гэтая стужка пазбаўлена лінейнага сюжэта і выглядае хутчэй як нарэзка з жыцця нялёгкага ды гаротнага. Таня Б. — танцоўшчыца, прастытутка — гадуе свайго сына гадоў чатырох-пяці, сустракаецца ў кафэ са сваім былым мужам, бачыць кашмары аб усім чалавецтве, грае з сынам на піянінцы, ходзіць на ягоныя ранішнікі, едзе на працу ў Маскву ды просіць сына не забываць пра маці... У гэтым фільме ёсць персанаж, і ён — жывы, у адрозненне ад усіх вышэйапісаных вопытаў Каласоўскага. Гэта вялікі плюс фільма. Варта адзначыць жаданне стварыць змрочную атмасферу ў духу Дэвіда Лінча ў кашмарах Тані Б., хаця наўрад ці гэта ў поўнай меры атрымалася. Рэч у тым, што ігра актораў пакідае жадаць лепшага (нават Таня Б. далёка не ў кожнай сцэне выглядае пераканаўча), а таксама многія сцэны пакутуюць на недапрацаванасць. У цэлым гэта ўсё яшчэ спроба стварыць «арт-хаус». Адсылка ў назве да шэдэўра Інгмара Бергмана фільму на карысць не грае.

Гісторыя пра дзяцей «Пугач» (2015) адпраўляе гледачоў у 90-я гады. Халодная восень, калейка, дзеці гуляюць у «казакі-разбойнікі» на развалінах. Тут кожны мае шапку, як у 90-я, тут жуйка «Turbo» як аб'ект фетышу, тут самаробная стралялка пугач — усё гэта дастаткова ўдала пагружае ў атмасферу тых часоў. Дзеці бегаюць па непагадзі, тузаюцца, змагаюцца паміж сабой ды спазнаюць сапраўднае сяброўства і прынцыповасць. Кульмінацыя стужкі — нялёгкі маральны выбар — выратаваць флейту сябра ці стаць «вафлёй» да скону дзён... Фільм як кароткі ўспамін пра дзіцячую псіхатраўму. Бадай што кожны мае падобныя ўзгадкі з маленства, таму гэтая гісторыя будзе блізкая многім. Заснаваная на асабістых успамінах, яна чапляе не толькі за кошт спробы рэканструкцыі эпохі 90-х, але і ўніверсальнасцю самога сюжэта.

Па выніку, мы маем рэжысёра, у якога ёсць свая каманда, які дастаткова паспяхова засвоіў у Варшаве фармальныя аспекты кінематаграфічнага майстэрства, які няспынна развіваецца ад карціны да карціны.

Падсумоўваючы абодва вечары, варта канстатаваць — у Беларусі нараджаецца новае кіно. Яшчэ няма прарыўных фестывальных фільмаў, але, магчыма, дзякуючы такім мерапрыемствам, як «БелКінаЛета CPM–2015», у бліжэйшай будучыні мы пабачым бліскучыя фільмы ад беларускіх аўтараў, чыё сусветнае прызнанне мае пачацца на роднай зямлі.

Наступны паказ адбудзецца 21 жніўня.

# Фолк-фэст «Камяніца» пашырае кірмаш нацыянальнай культуры




**Сёмы па ліку фолк-фэст «Камяніца» адбудзецца 5 верасня на тэрыторыі Музею народнай архітэктуры і побыту пад Мінскам пры падтрымцы ААТ «Банк БелВЭБ».**

— «Камяніца» ўжо досыць даўно не з'яўляецца проста музычным фэстам. Гэта месца для сустрэчы ўсіх, каго цікавіць нацыянальная культура ў самых розных праявах, — распавядае каардынатар фэсту Сяргей Чэгрынец. — У мінулым годзе ў нас было каля 50 кропак народных промыслаў і забаў, у гэтым годзе мы гатовыя без усялякай аплаты запрапанаваць яшчэ больш месца.

Да ўдзелу ў кірмашы запрашаюцца ўсе, хто працуе ў рэчышчы беларускай нацыянальнай культуры: аматарскія і студэнцкія музычныя калектывы (другая сцэна), прадстаўнікі народных промыслаў (ганчары, пляценне, тэкстыль), візуальнага мастацтва (фатографы, дызайнеры, мастакі), культурных ініцыятыў (вывучэнне мовы, песень, традыцыйных гульняў). Заяўкі неабходна дасылаць да 25 жніўня на адрас kamianica2003@gmail.com з апісаннем, прыкладамі і кантактамі.

Фолк-фэст «Камяніца» быў заснаваны ў 2009 годзе і з таго часу нязменна адбываецца на маляўнічай тэрыторыі Музею народнай архітэктуры і побыту ў вёсцы Азярцо пад Мінскам (4 км за аўтарынак «Малінаўка»), дзе на вольным паветры можна пабачыць найбагацейшую ў Беларусі калекцыю драўлянай архітэктуры XVIII–XX стагоддзяў.

Мерапрыемства збірае разам лепшых беларускіх фолк-артыстаў і замежных гасцей. У мінулыя гады на «Камяніцу» прыязджалі Алег Скрыпка (Украіна), «ДахаБраха» (Украіна), Orkiestra Sw. Mikolaja (Польшча), Караліна Ціха і Бартэк Палыга (Польшча), «Иван Купала» (Расія), AhmedMaHlad (Чэхія) і шэраг іншых выканаўцаў. Музычная праграма гэтага года будзе абвешчана ў хуткім часе.

Відэарэпартажы з мінулых фэстаў можна паглядзець на нашым сайце novychas.info.

Сачыце за навінамі фестывалю:

Facebook — https://www.facebook.com/kamyanitsa.festival

Vk — http://vk.com/kamyanitsa.festival

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Кароль Аляксей Сцяпанавіч**
Намеснік галоўнага рэдактара **Колб Аксана Мікалаеўна**
**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009 г.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.
**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81
novychas@gmail.com; novychas.info
**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 1064

Падпісана да друку 14.08.2015. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.